# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 31 (701) 3 ЖНІЎНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.




**Мост на Нарве.**
Фота Цаф — Сянько




Падумаў я, што летам трэба напісаць аб магчымасцях турыстычнага руху на нашых землях. Руху, які ў нас (без Белавежы) амаль не існуе.

Цудныя рэчкі, задумённыя затокі, урочышчы лясныя нікім не сватаныя...

Кожная рэчка, бы жанчына, мае сваю прыгожасць, якую не заўсёды відаць адразу. Зразумеў я гэта ў Семяноўцы, дзе Нарва і даліна, шырокая як бы паміж небам і зямлёю.

Была нядзеля, але я не ўбачыў тут нікога апрача шайкі семяноўскіх дзяцей у плыткай завадзі. Цікава, дзе прасвяткавала прамысловая Гайнаўка, да якой усяго з паўгадзіны — мо больш — язды цягніком адсюль? Ні домікаў адпачынку, ні палатак гарцэрскіх лагераў, лясныя берагі-пагоркі пустыя, аж пакрыўджаныя ў прыгожасці сваёй. У абдымках дрымучай Белавежы.

Нарва быстраводная. Гэта дзіўна непадобнае да рэчкі ў даліне парукіламетравай шырыні. Мы пераставалі веславаць, каб пабачыць, як хутка будзе плысці наша лодка-каяк. Ад Канюкоў да сярэдзіны плёскаўскага лесу, Арабчыны, даплылі (без веславання) у паўгадзіны! А было хіба болей, чым пяць кіламетраў... За дзень можна праплысці Нарваю ад яе семяноўскіх вытокаў аж да Страблі. Паўшырыні ваяводства, з перапынкамі на яду і кароткія экскурсіі ўглыб даліны. У Страблі лодкавая станцыя і магчымасць хуткага пераезду цягніком у Беласток, Бельск, Гайнаўку. За адну святочную нядзелю зрабіць далёкае вандраванне паўз гушчар прыроды і без асаблівага фізічнага намагання гэта ўжо аказія не абы якая.

Але ў Семяноўцы няма каякаў!

Аказія правесці водпуск блізка і цікава. Так думаў я гледзячы на гарадок адпачынку ў Арабчыне, які будуе ПКС. Доўга будуе, бадай, трэці год. Затое салідна і выгодна, зручна. Няўжо толькі ПКС-аўскія працаўнікі, вечныя падарожныя на дарогах нашых, спазналі прыгожасць рэчкі ў сонечнай даліне з цёплымі вятрамі?

Пішучы аб усім тым я не маю надзеі, што каго-кольвек з беларусаў пераканаю ў прыгожасці, значыць, у патрэбнасці падарожжа па зямлі роднай, роднай, роднай, сонечнай далінай Нарвы. Даволі, калі хто-кольвек прачытае і задумаецца на момант. Бельскі ПТТК са сваімі хаткамі ў лесе, на беразе высокім каля Войшкаў, няслушна выглядае на дурня, якому ліха ведае чаго захацелася жыць пад соснамі і плываць каякамі ўзад ды ўпоперак без карысці ніякай,

Працяг на стар. 4




У вёсцы Дубіны, якая зараз амаль што спалучылася з Гайнаўкай, жыла сям'я Салавянюкоў: 5 братоў і 3 сястры. Разам з бацькамі аж 10 душ. Усе яны змяшчаліся на бацькоўскай гаспадарцы, велічынёю ў 2,5 гектара. Зразумела тады што Салавянюкі замест хлеба пастаянна перажоўвалі бяду.

Цяпер у Дубінах астаўся толькі Рыгор. Сяргей і Кастусь загінулі ў баях за Калінінград, Андрэй жыве ў Савецкім Саюзе, а Сцяпан... Пра Сцяпана менавіта, пра яго змаганні за народную ўладу, хачу расказаць сёння болей падрабязна.

Гэтыя яго змаганні распачаліся яшчэ ў радах савецкай партызаншчыны. Брат Рыгор ўспамінае:

— Ён не быў такім звычайным партызанам, як гэтыя нашыя вясковыя, якіх тут многа яшчэ сёння жыве. Ён з дэсанцічыкамі хадзіў, разведчыкам быў! Размяшчаліся яны ў Белавежскай і ў Пружанскай пушчах і яшчэ там недзе далей.

Сцяпану Салавянюку было тады ледзь 20 год. Каб выдаць сябе болей сур'ёзным, дабавіў ён сабе яшчэ 3 гады і так ужо асталося ў афіцыйных дакументах.

Летам 1944 года паўднёва-ўсходняя частка Беластоцкага ваяводства дачакалася вызвалення. Сцяпан Салавянюк атрымаў загад астацца на асвабоджанай тэрыторыі і перайсці ў распараджэнне прадстаўнікоў Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення, які быў першым органам народнай улады на польскай зямлі. Спярша ў Гайнаўцы правадзіў ён набор у салдаты, а пасля накіравалі яго ў Бельск.

Там якраз арганізавалася Павятовае праўленне грамадзянскай бяспекі. Арганізавалася... Вялікае слова! А ў сапраўднасці...

Расказвае Шымон Вілюк з вёскі Вілюкі:

— Ад 25 лютага 1945 года я быў членам Польскай рабочай партыі. Пад канец сакавіка атрымаў з Бельска павестку, у якой гаварылася, што трэба забраць з сабою запасную пару бялізны, харчоў на два дні і 1 красавіка 1945 года явіцца ў Павятовы камітэт ППР. Разам са мною пайшлі: Мікалай Пень, Мікалай Саевіч, Васіль Вапа, Мікалай Ахрымюк і Васіль Леўчук. Прыняў нас сакратар Павятовага камітэта ППР, тав. Асалінскі. Спісаў на паперку прозвішчы і асабіста адвёў да шэфа Павятовага праўлення грамадзянскай бяспекі, тав. Петраса. «Прымай папаўненне», — сказаў яму і такім чынам сталі мы працаўнікамі бяспекі. Пасля абеду завялі нас у святліцу. Там было пуста — ні стала, ні крэсла. Знайшлі мы пару снапкоў саломы, разаслалі яе на падлозе ў святліцы і такім чынам «загаспадараваліся». Пасля некалькіх дзён сабралася нас разам каля 40 чалавек. Выдалі нам старыя рускія і нямецкія вінтоўкі.

Не пра жыццёвыя выгады было ім тады думаць. Яшчэ на захадзе грымеў фронт, калі ў нас на Беласточчыне паўторна палілася кроў — ад тэрарыстычных, здрадніцкіх куль. Сярод розных

Працяг на стар. 4

## УЗНАГАРОДЖАНЫ ДЗЕЯЧЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ

21 ліпеня ў Варшаве адбылася ўрачыстасць уручэння высокіх дзяржаўных узнагарод 54 заслужаным дзеячам нацыянальных грамадска-культурных таварыстваў. Атрымалі адзначэнні прадстаўнікі ўсіх таварыстваў, якія дзейнічаюць у Польшчы: беларускага, украінскага, літоўскага, нямецкага, рускага, яўрэйскага і Саюза палітычных бежанцаў з Грэцыі. Адна асоба атрымала Крыж Камандорскі Ордэна Адраджэння Польшчы, тром асобам прызнаны Афіцэрскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы, 7 чалавек узнагароджаны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, 17 чалавек — Залатым Крыжам Заслугі, 24 дзеячы атрымалі Сярэбраны Крыж Заслугі і два — Бронзавы Крыж Заслугі. Узнагароды уручыў сакратар Рады Дзяржавы Людамір Стасяк.

З Беларускага таварыства высокія




дзяржаўныя адзначэнні атрымалі 15 чалавек.

У наступным нумары «Нівы» надрукуем шырокую справаздачу з гэтай урачыстасці, у тым ліку і прамову сакратара Рады Дзяржавы Людаміра Стасяка.

### НА ЎРАЧЫСТЫХ СЕСІЯХ

На ўрачыстых пасяджэннях павятовых рад нарадовых і павятовых камітэтаў партыі ў гонар 25-ай гадавіны ПНР былі ўзнагароджаны заслужаныя дзеячы паветаў. Сярод іх знайшліся актывісты беларускага таварыства. У Гайнаўцы атрымаў Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы Міхась Адамец — пасол у Сейм, старшыня гуртка БГКТ у вёсцы Сацы.

У Бельску Падляшскім Сярэбраны Крыж Заслугі атрымалі Мікалай Гайдук — старшыня Бельскага аддзела БГКТ і член прэзідыума ГП, а таксама Язэп Альшэўскі — член прэзідыума Бельскага аддзела і старшыня рэвізійнай камісіі ГП БГКТ.

У Саколцы Сярэбраны Крыж Заслугі атрымаў член прэзідыума Сакольскага аддзела БГКТ Віталі Чыжэўскі.

### АКАДЭМІЯ

17 ліпеня гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку ў прыгожа удэкараванай зале ГП арганізаваў акадэмію, прысвечаную 25-ай гадавіне Народнай Польшчы. Кароткім уступным словам адкрыў яе старшыня аддзела Кастусь Масальскі, які пасля запрасіў члена прэзідыума аддзела Уладзіміра Навіцкага зрабіць даклад. У змястоўным дакладзе між іншым гаварылася аб цяжкім перыядзе станаўлення ўлады на Беласточчыне, аб дасягненнях нашай краіны ў будаўніцтве сацыялізма і аб тым, што беларускае насельніцтва ў Польшчы, зраўнанае ў правах з братамі — палякамі, актыўна ўключылася ў будаўніцтва сваёй Айчыны, у павелічэнне яе дасягненняў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Пасля заканчэння афіцыйнай часткі быў паказаны савецкі фільм, а пасля яго адбылася танцавальная вечарына для ўдзельнікаў акадэміі.

### ФЭСТЫН У МІЛЕЙЧЫЦАХ

20 ліпеня ў Мілейчыцах адбыўся фэстын, арганізатарам якога былі мясцовыя ўлады і аддзел БГКТ у Мілейчыцах. На гэтым фэстыне выступіў між іншым харавы калектыў Бельскага аддзела БГКТ. Аб гэтым фэстыне напішам шырэй у наступным нумары «Нівы».

### ПАВЯТОВАЯ СЕСІЯ

20 ліпеня ў Гарадку адбылася пашыраная сесія павятовай рады нарадовай. У мастацкай частцы выступіў харавы калектыў Гарадоцкага аддзела БГКТ.

(мх)

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### ЗВАРОТ НА ЗЯМЛЮ

Амерыканскія касманаўты, якія на барту карабля «Апалон — 11» адбылі падарожжа на Месяц і прызямліліся на яго паверхні, шчасліва вярнуліся на Зямлю. Да 11 жніўня будуць яны знаходзіцца ў спецыяльным памяшканні, зусім ізаляваным ад знешняга свету. Справа ў тым, што касманаўты маглі прывезці з сабою з Месяца нейкія невядомыя на Зямлі мікробы. Даўжэйшы каранцін касманаўтаў у спецыяльным, ізаліраваным памяшканні дазволіць людзям пазбегнуць магчымасці распаўсюджання нейкай «касмічнай заразы».

Падлічана, што цэлая экспедыцыя на Месяц працягвалася 195 гадзін 17 мінут і 49 секунд. Касманаўты прывезлі з сабой дзве скрынкі кавалкаў грунту з Месяца. Будуць яны падрабязна абследаваны вучонымі. Прывязлі яны таксама з сабою значную колькасць фільмовай стужкі са здымкамі з Месяца. Касманаўты пакінулі на Месяцы сейсмограф, які будзе перадаваць на Зямлю ўсялякія патрасенні месячнага грунту. Дзякуючы гэтаму апарату, ужо на працягу кароткага часу вучоным удалося запісаць пэўнага роду «землетрасенні» на Месяцы. Пададзена да ведама, што ў палове лістапада гэтага года ў напрамку Месяца паляціць наступная амерыканская ракета з касманаўтамі — «Апалон — 12». Два касманаўты з гэтай ракеты маюць намер прызямліцца на ўсходнім беразе месячнага «Акіяна Бур».

### ВІНШАВАННІ

У сувязі з удалым палётам амерыканскіх касманаўтаў на Месяц прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Р. Ніксан атрымаў з усяго свету шэраг віншаванняў. Віншаванні прэзідэнту пераслалі між іншым Старшыня Рады Дзяржавы ПНР Мар'ян Спыхальскі і Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Н. Падгорны.

### ПАДАРОЖЖА Р. НІКСАНА

Прэзідэнт Злучаных Штатаў Р. Ніксан сваё падарожжа па краінах Азіі пачаў ад Маніліі — сталіцы філіпінаў. Заявіў ён, што хоча перадыскутаваць справу будучыні Азіі пасля заканчэння в'етнамскай вайны, і пачаў размовы з прэзідэнтам Маркосам. У час размоў перад прэзідэнцкім дварцом адбывалася антыамерыканская дэманстрацыя студэнтаў, якія няслі транспаранты з надпісамі: «Паслаць яго на Месяц», «Ніксан, хто наступны пасля В'етнама?» і абвінавачвалі Злучаныя Штаты ў прымяненні газаў, якія дзейнічаюць на нервовую сістэму. Каб не дапусціць да больш сур'ёзных інцыдэнтаў, філіпінскія ўлады змабілізавалі 16 тысяч паліцыянтаў.

### ІНТЭРХІМ

Улады Польшчы, Савецкага Саюза, Балгарыі, Чэхаславакіі, Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі і Венгрыі стварылі новую міжнародную гаспадарчую арганізацыю ў галіне лёгкай хіміі пад назвай «Інтэрхім» з сядзібай у ГДР. (п)



## БССР

### УСЕНАРОДНАЙ

Нядаўна Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі прыняў пастанову — «Аб дадатковых мерах па паляпшэнню навуковай распрацоўкі гісторыі ўсенароднай барацьбы ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны».

Звярнута ўвагу на сур'ёзныя недахопы і хібы ў даследчай рабоце гісторыі барацьбы беларускага народа, на нярэдкія праявы павярхоўнасці яе ды шаблоннасці. Сіламі шырокай партыйнай і навуковай грамадскасці вырашана правесці паўсюдны збор інфармацый аб важнейшых падзеях на беларускай зямлі ў час апошняй вайны. Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі ў чатырохгадовы тэрмін падрыхтуе да друку трохтомную працу — «Усенародная барацьба супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Беларусі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944 гады)».

### НАВІН

У Мінску адбыўся семінар загадчыкаў аддзелаў навін і інфармацыі рэспубліканскіх, абласных і раённых газет, радыё і тэлебачання, скліканы аддзелам прапаганды і агітацыі ЦК КП Беларусі.

### СПАРТАКІЯДА

Пад старшынством намесніка старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР Р. Кісялёва адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенню V спартакіяды Беларусі па ваенна-тэхнічных відах спорту.

Спартакіяда будзе праводзіцца на працягу 1970 года спачатку на прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях, затым у раёнах, гарадах і абласцях. Фінал адбудзецца ў сталіцы БССР. Мэтай спартакіяды з'яўляецца масавае ўцягванне юнакоў і дзяўчат у заняткі ваенна-тэхнічнага спорту.

### 25-ГОДДЗЮ

На Беларусі адбылося шмат урачыстасцей, прысвечаных 25-годдзю Народнай Польшчы. Беларускія газеты прысвяцілі цэлыя старонкі на апублікаванне матэрыялаў, якія расказваюць аб справах нашай краіны.

У Беларусі знаходзілася група польскіх літаратараў, якую узначальваў Леан Вантула, літаратар па таленту, шахцёр па прафесіі.

У Брэсце, напрыклад, адбыўся ў памяшканні мясцовага тэатра ўрачысты сход, на якім прысутнічала польская дэлегацыя. Прамову меў Вальдэмар Камінскі — галоўны інжынер шэфмантажу польскай фірмы «Металаэкспарт», якая пастаўляе абсталяванне для будуемага ў Брэсце электралямпавага завода.

Газета «Звязда» змясціла артыкул сакратара ЦК нашай партыі Стэфана Альшоўскага — «Шляхам, які вызначыла гісторыя». Змешчаны таксама матэрыял Інтэрпрэсу — «Польшча і бяспека Еўропы». (С. Я.)



## ПОЛЬШЧА

### СЯРЭБРАНЫ ЮБІЛЕЙ

21 ліпеня, у 25-ую гадавіну гістарычнага маніфеста Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення, адбылося ўрачыстае пасяджэнне Сейма. У пасяджэнні прынялі ўдзел юбілейныя госці: Генеральны сакратар Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза Леанід Брэжнеў, I сакратар Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Чэхаславакіі Густаў Гусак, прэм'ер Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі Вілі Стоп. З прамовао выступіў I сакратар Польскай аб'яднанай рабочай партыі Уладзіслаў Гамулка. Прааналізаваў ён вялікі шлях які прайшла нашая краіна, пачынаючы ад першых дзён пасля вызвалення, і ўказаў на аграмадныя страты, якія Польшча панесла ў выніку гітлераўскай акупацыі. З кожнай тысячы грамадзян, якія пражывалі ў Польшчы ў 1939 годзе, 220 было знішчана гітлераўцамі, 37 засталося інвалідамі, каля 100 захварэла на сухоты, звыш 100 было вывезена ў лагеры і на прымусовыя работы, каля 150 асталося без даху над галавою. Аграмадныя страты панесла нашая гаспадарка, культура і навука. Нягледзячы на гэта, дзякуючы разумнай палітыцы нашай партыі і ахвярнай працы ўсяго грамадства, у хуткім часе краіна была адбудавана са знішчэнняў і накіравана на дарогу хуткага развіцця.

Тав. Уладзіслаў Гамулка ўказаў на аграмадны скок, які зрабіла нашая краіна ў параўнанні з міжваенным перыядам. Прамысловая прадукцыя ўзрасла за гэты перыяд у 14 разоў, а лік рабочых у прамысловасці пабольшыўся ў 4 з палавінаю разоў. Колькасць асоб з вышэйшай адукацыяй на 100 асоб дарослага насельніцтва ўзрасла ў 12 разоў. Даваенная Польшча была беднай сельскагаспадарчай краінай, у якой з сельскай гаспадаркі жыло 2/3 насельніцтва. Зараз — наадварот — 2/3 насельніцтва ўтрымліваецца з іншых заняткаў і толькі 1/3 — з сельскай гаспадаркі. Спажыццё мяса, цукру, тлушчу ў пераліку на 1 жыхара краіны ўзрасло ў параўнанні з міжваенным перыядам у 3 разы, а вопраткі і абутку — ў 2—3 разы.

У далейшай частцы свайго выступлення I сакратар партыі звярнуў увагу на вялікае значэнне нашага саюзу з сацыялістычнымі краінамі, асабліва з Савецкім Саюзам і даўжэй затрымаўся над прапанаваным Польшчай заключэннем дагавору з Германскай Федэратыўнай Рэспублікай у справе канчатковага прызнання дзяржаўнай мяжы на Одры і Нысе Лужыцкай. На заканчэнне прамоўца сканцэнтраваўся на праблемах далейшага развіцця краіны.

На гэтым самым пасяджэнні Сейм прыняў пастанову аб амністыі, якая звальняе з пакарання пэўныя катэгорыі грамадзян, якія аказаліся ў супярэчнасці з правам перад днём 15 ліпеня гэтага года. Пастанова стварае ім магчымасць рэабілітацыі і павароту да нармальнага жыцця ў грамадстве.

22 ліпеня адбыўся ў Варшаве ўрачысты ваенны парад. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### НАША ГАДАВІНА

25 год назад 27 ліпеня 1944 года насельніцтва Беластока сардэчна вітала ўступаючыя ў разбураны вайной горад Савецкія войскі. Беласток быў адным з першых гарадоў Польшчы, вызваленых ад гітлераўскай акупацыі.

Вельмі цяжкімі былі пачаткі адбудовы горада. За час акупацыі і ваенных дзеянняў колькасць беластачан зменшылася з 107 тыс, да 45 тыс. чалавек. Было разбурана 70% будынкаў і знішчана 95% прамысловасці.

I вось мінула чвэрць стагоддзя.

Наш горад цяпер зусім іншы. Выраслі прыгожыя дамы, новыя шырокія вуліцы. Цяпер Беласток — гэта значны прамысловы цэнтр. Хопіць толькі назваць некалькі фабрык, такіх, як вядомыя на ўсю краіну сваімі тканінамі «Фасты», тэкстыльная фабрыка імя Сяржана, фабрыка металічных прылад, завод дакладнай апаратуры ў Чорнай Беластоцкай і шмат — шмат іншых дзяржаўных і спулдзельчых прадпрыемстваў. Непараўнальна лепей выглядае справа лекарскай апекі і школьніцтва.

### ПАДАРУНАК

У мінулую суботу, на юбілей вызвалення Беластока наш горад атрымаў яшчэ адзін вялікі прамысловы аб'ект — склад - халадзільнік. Халадзільнік — гэта 250-ты аб'ект харчавой прамысловасці, якія былі пабудаваны за мінулае 25-годдзе.

### СВЯТКАВАННІ

У сувязі з гэтай вялікай гадавінай апошнія дні мінулага тыдня прайшлі ў Беластоку пад знакам урачыстых акадэмій, спатканняў, мітынгаў.

26 ліпеня адбылася ўрачыстая сесія Гарадской рады нарадовай і Гарадскога Камітэта Фронту адзінства народа. З дакладам аб пачатках народнай ўлады, аб дасягненнях Беластока за 25 гадоў ва ўсіх галінах выступіў старшыня Прэзідыума гарадской рады Зыгмунт Безубік.

Сярод запрошаных гасцей былі I сакратар ГК ПАРП Юзэф Трусевіч, старшыня Прэзідыума ВРН Стэфан Жмійка, сакратар ГК ПАРП Аляксандр Младзяноўскі, дырэктар «Фаст» Браніслаў Цюла, прадстаўнік савецкага пасольства ў Польшчы палкоўнік Мікалай Іларыёнаў.

У час сесіі былі зачытаны віншавальныя тэлеграмы ад жыхароў Каўнаса і ад савецкіх воінаў якія ўдзельнічалі ў вызваленні Беластока і яго ваколіц.

### 25 ГАДОЎ МО І СБ

Сёлета адзначае сваю 25-ую гадавіну і грамадзянская міліцыя. У сувязі з гэтым дзевяць камэнд МО атрымаюць ганаровыя сцягі, па ініцыятыве грамадства ў мясцовасцях, дзе адбыліся сутычкі службы бяспекі і МО з рэакцыйнымі бандамі, будуць пастаўлены помнікі — абеліскі і памятныя табліцы. З нагоды юбілею на многіх прадпрыемствах, у школах і розных установах адбудуцца спатканні з афіцэрамі міліцыі. (я)




**Niedziela, 3.VIII.**

8.30 Program dnia. 8.35 „Lato 1969" — „Żniwa". 9.10 „Przypominamy, radzimy". 9.30 „Sofia Kijowska" „Sobór z XI wieku". 10.05 „Ostatnia szansa" — film TVP („Stawka większa niż życie") 11.05 „Bawcie się z nami", 11.50 Dziennik TV. 12.05 Przerwa. 13.50 Program dnia. 13.55 „Przemiany". 14.25 „Ojciec i syn" — film. 14.55 „Sejm dawnej Polski w rysunku i malarstwie". 15.15 Monologi Wiktora Śmigielskiego. 15.40 PKF. 15.50 „W Szarych Szeregach" („Ludzie i zdarzenia"). 16.10 „Glenn Miller" — film fab. USA. 17.55 Niedzielny Teatr Popołudniowy: A. Szypulski „Agent z Vaduz". 19.10 „Forsowanie Wisły przez I Armię WP — Dęblin" 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Młodzi małżonkowie" — film fab. wł. 21.35 „Żałuję, ja to nie ja" — Komedia. 22.20 Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek, 4.VIII.**

16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Nasi najbliżsi krewni" — film („Opowieści ze świata zwierząt"). 17.25 „Echo stadionu". 17.45 „Pasterska trąbka" — film czechosł. rozr. 18.10 „Eureka" — rajd reporterów. 18.50 „Sylwetki X Muzy" — Natalia Wood. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.00 Teatr TV: „Śmierć komiwojażera". 21.35 „Panorama Literacka". 22.15 Dziennik TV. Wiadomości sportowe.

**Wtorek, 5.VIII.**

10.00 „Jak się masz Vero" — film fab. węg. 11.40 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Slabing" — film dok. pol. 17.15 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Jak się masz Vero" — film fab. węg. 21.40 „Kontakty". 22.10 Dziennik TV. Wiadomości sportowe.

**Środa, 6.VIII.**

10.00 „Hiroszima pewnego lata" — film jap. 10.40 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. TV. 17.00 „Teleferie". 18.30 „Magazyn ITP". 18.40 TV Kurier Warszawski. 19.05 „Wyzwolenie miasta" — Skalbmierz. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Hiroszima pewnego lata" — film jap. 20.40 „Światowid". 21.10 PKF. 21.20 „Próby" — program baletowy. 21.50 Wszechnica TV. 22.20 Dziennik TV.

**Czwartek, 7.VIII.**

16.40 Program dnia. 16.45 „Przypominamy, radzimy". 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Nie tylko dla pań". 17.20 „Wenecji grozi zagłada" — film dokumentalny. 18.05 „Jazz Jamboree 68". 18.35 „Lato u przyjaciół" — rep film. 18.55 „Nie samym chlebem" — program wiejski. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Reduta Powiśla" — progr dok. 20.30 „10 minut recenzji". 20.40 „Bariera dźwięku" — film TVP. 21.35 „Magazyn Medyczny". 22.05 Dziennik TV.

**Piątek, 8.VIII.**

10.00 „Szklana Góra" — film fab. pol. 11.30 Przerwa. 16.10 Program dnia. 16.15 Dziennik TV. 16.30 „ZSRR na budowie". 17.30 „Teleferie". 19.00 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 19.55 „Poszukiwacze skarbów". 20.25 Festiwal Teatrów Dramatycznych. 21.35 „Na morskich szlakach". 22.05 Dziennik TV.

**Sobota, 9.VIII.**

10.00 „Kubo" — film fab. czechosł. 11.10 Przerwa. 16.05 Program dnia. 16.10 Program tygodnia. 16.30 Program sportowy. 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Kubo" — film fab. czechosł. 18.10 „Sierpniowa Niedziela". 18.35 „Turystyka 69". 18.45 „Witajcie w Płocku". — rep. film. 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Wieczór kuglarzy" — film fab. szwedzki. 21.20 Dziennik TV. Wiadomości sportowe. 21.45 „Małżeństwo doskonałe".




(Паводле маскоўскага часу)

**1 жніўня, пятніца**

10.10 навіны; 10.15 — для школьнікаў. «Адгукніся, сын»; 10.45 — канцэрт лаўрэата Усесаюзнага фестывалю самадзейнага мастацтва; 11.45 — для школьнікаў. «Вецер вандраванняў»; 12.15 — тэлевізійны тэатр для дзяцей; 16.55 — праграма перадач; 17.00 — для школьнікаў. «Вас выклікае Спартландыя»; 18.00 — «Панарама навін»; 18.30 — дзіцячы экран. «Пеўнік і жорнаўкі». «Храбры конік». Лялечны фільм; 19.00 — «У адзіным страі — да адзінай мэты». «Эстафета навін»; 20.00 — да Усесаюзнага дня чыгуначніка. Канцэрт; 21.30 — праграма каляровага тэлебачання. «13 крэслаў»; 22.30 — эстрадны канцэрт; 23.30 — турнір фехтавальшчыкаў зборных каманд сацыялістычных краін.

**3 жніўня, нядзеля**

8.55 — праграма перадач; 9.00 — «На зарадку станавіся»; 9.15 — навіны; 9.30 — «Будзільнік». 10.00 «Музычны кіёск»; 10.30 — «Гісторыя аднаго пошуку». Расказ пра людзей, якія папярэдзілі разбурэнне фашыстамі Дома ўраду ў Мінску; 10.50 — «На музычнай хвалі»; 11.05 — «Белыя і чорныя», шахматна-шашачны клуб; 11.30 — «Помнікі архітэктуры», «Софя Кіеўская»; 12.00 — для дзяцей. «Чараўнік з краіны Оз»; 13.00 — «Сельская гадзіна; 14.00 — сёння — усесаюзны дзень чыгуначніка; 15.00 — праграма каляровага тэлебачання. «Клуб кінападарожнікаў»; 16.00 — для воінаў Савецкай Арміі і Флоту; 16.30 — «Час». Інфармацыйная праграма; 17.00 — урачыстае адкрыццё Другой летняй спартакіяды дружалюбных армій; 18.45 — навіны; 19.00 — праграма каляровага тэлебачання. Н. Ляонаў, «Чаканне майго званка», «Прэм'ера тэлевізійнага спектакля. У антракце — «Рускі крышталь»; 21.00 — «Сем дзён». Міжнародная праграма; 21.45 — у эфіры — «Маладосць». «Эстрада, каханне і крыху фантазіі». Канцэрт; 22.45 — «Спартыўны тыдзень».

БЕЛАВЕЖА
ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 12

## БАЙДАР З БЯЛІН

**(Да 50-годдзя з дня нараджэння Юзэфа Озгі - Міхальскага)**



Калі летам 1919 года ў сялянскай сям'і з вёскі Бяліны ў Кялецкім ваяводстве нарадзіўся сын, якога ахрысцілі Юзэфам, адроджаная польская дзяржава пачынала толькі сваё цяжкое і для беднага люду не вельмі спрыяльнае існаванне. Бацькі Ёзіка не маглі нават спадзявацца нейкай светлай будучыні для свайго сына, хаця гэтага шчыра яму жадалі. Таму пачалі яго вучыць.

Але ён сам, калі толькі падрос, пачаў змагацца за лепшую будучыню для ўсіх сялянскіх і рабочых дзяцей, для простага, запрацаванага люду. Маючы 17 год быў ужо актывістам Саюза вясковай моладзі «Віці», арганізаваў міжшкольныя гурткі гэтай прагрэсіўнай арганізацыі, абсталёўваў для іх бібліятэкі. За гэта нават на нейкі час выключылі яго са школы.

Быў здольны, таленавіты. Пісаў вершы ў школьную сценгазетку, а ў 1938 годзе выдалі яму першы яго паэтычны зборнік «Песні бунту». Гэты загаловак наводзіць ужо на змест. Пасля паявіўся зборнік народных апавяданняў «Гаворыць Лысіца», а затым зборнік вершаў на народныя матывы «Свентакшыскі абэрэк». Успамінаючы гэтыя свае першыя крокі на літаратурнай ніве, Юзэф Озга-Міхальскі сцвярджае: «Няма ў іх рэчаў выдуманых. Я апісваў у іх сваіх суседзяў, сялян, якія жывуць у маёй вёсцы Бяліны пад Кельцамі. Іх характэрныя рысы і людскія перажыванні самі накідваліся мне пад пяро, пераўтвараліся ў змест маіх твораў і ад самага пачатку з'яўляліся стымулам маёй літаратурнай творчасці».

Настала злавесная акупацыя. Юзэф Озга-Міхальскі не стаў спакойна чакаць на вызваленне. Ён пайшоў у партызаны Быў салдатам Сялянскіх Батальёнаў. Біў ворага вінтоўкай і словам. У суровым падполлі выдаваў газету «Зніч» і «Прамень». Крыху пазней арганізаваў у Кельцах падпольную Ваяводскую раду нарадовую і зараз пасля вызвалення нейкі час з'яўляўся старшынёю гэтай рады. Быў пасломy Краёвую Раду Нарадовую. Ад першых выбараў у Сейм ПНР з'яўляецца безупынна пaслом. У 1949 годзе пачаў працаваць у Галоўным Выканаўчым камітэце Аб'яднанага людовага стронніцтва — спярша як сакратар а пасля як намеснік старшыні. Ад 1957 года з'яўляецца членам Рады Дзяржавы.

Яго багатая і з найлепшым мастацкім майстэрствам выпрацаваная літаратурная творчасць запоўніла наступныя зборнікі: «Парафіяльнае люстэрка», «Чэрнэк і Анна» (паэма), «Сумнае і вясёлае», «Светавід», «Незвычайнае падарожжа» (уражанні з СССР), «Польшча», «Партызанскія старонкі», «Людовы патон», «Поўня» і «Пожня».

Гэтыя зборнікі запоўнены вершамі і прозай. Адны і другія выраслі з сялянскай глебы і глыбока запусцілі ў яе свае карэнні. Творчасць Юзэфа Озгі-Міхальскага адклікаецца да багатай спадчыны народнага паэтызавання. Толькі гэтае паэтызаванне ўздымае ён на вышэйшы больш дасканалы мастацкі ўзровень.

Гэтага, што выпала на долю Юзэфа Озгі-Міхальскага на працягу 50-ці год яго жыцця і звыш 30-ці год літаратурнай творчасці, хапіла б для нейкіх 10-ці чалавек.

Ведаю, што незадоўга паявяцца яго новыя паэтычныя зборнікі. Сваё 50-цігоддзе Озга сустракае поўным і буйным росквітам творчых магчымасцей.

Жадаем тады яму, каб яго літаратурная яблыня цвіла і запаўнялася сакавітымі ябыкамі твораў.

**Віктар Рудчык**

◆

### Патрэбна дакладнай меры

**Боты ціснуць праўду,**
**дык скіньма іх,**
**хай праўда будзе голай.**
**У гэтыя цесныя боты**
**абуйма хлусню.**
**каб праверыць,**
**ці не хлусіла праўда.**

◆

### Прапановы

**Пакінуты, дык ідзі сабе,**
**пакаханы, дык прыходзь.**
**Гэта толькі розніца**
**у напрамку дарогі.**
**Памершы — ідзі у ямку,**
**народжаны — выходзь.**
**Кожнаму дарога**
**па патрэбе яго.**

◆

### СЭНС

**Не мае сэнсу мур высокі,**
**Калі карлікам зладзей.**
**Але сэнс заўсёды мае сад.**
**Мур падменіць паспяхова**
**дабрата,**
**яна аднак жа не падменіць —**
**фруктаў.**



◆

### НЯЎВАГА

**Чалавек безупынна**
**заменьвае сабе часткі**
**старыя — новымі**
**і здзіўляецца,**
**што ходзіць усё горш.**

З польскай мовы пераклаў
**ВІКТАР РУДЧЫК**

◆

Вершы са зборніка «Іржышча» „Scierniskо", LSW, W-wa, 1969 г. Беласток, люты 1969 г.

### У час навальніцы

Загрымела. Навальніца
Абудзіла ўсё сяло.
За акном, па аканіцах,
Закапала, паліло.

Чую крыкі сярод ночы,
Тупат ног гаспадароў.
Бляск маланкі слепіць вочы
Проста ў сэрца закалоў.

Маці скацяркаю белай
Атуліла гэты змрок,
І грамніцу з вянком зелля
Ужо паставіла ў куток.

Пахіліліся галовы
У малітве над сталом.
Гром, ступаючы сурова
Зноў ударыў за сялом.

Як развеяць іх трывогу,
Што вяртаецца вясной.
Громаадвод каля дарогі
Сам вядзе заўзяты бой.

Атуліўшыся каўнерам
Адчыняю я акно...
Падыйшлі, вачам не верац —
Іскры сыплюцца ажно.

Адышлі, павеселелі,
І пайшлі на супакой.
Толькі маці хоць сардэчна,
Пагразіла мне рукой.

**Леапольд Танкевіч**



### Мімавольныя настроі

**Маю вялікі твар**
**не успеюць схавацца**
**настроі**
**часта**
**вырвецца сляза**
**на узгорках барады**
**выпарыцца**
**не галю барады**
**ні вусоў**
**— растуць натуральна**
**каб зменшыць**
**прастору чытэльнасці твару**
**грымасу**
**перад вачыма**
**барадой зачашу**

**ЯША БУРШ**



* * *

**Каханне часамі**
**раве**
**фабрычным гудком,**

**часамі**
**песняй салаўя**
**ўзлятае**
**ў маёвую ноч,**

**часамі жаўруком**
**звоніць у блакіце...**

**А часамі ёсць толькі**
**ўздыхам,**

**або балючым**
**біццём сэрца,**
**якога**
**ніхто**
**не чуе.**

**АЛЕСЬ СВІСЁК**

## АМЕРЫКАНЦЫ ДАДАМУ!

Схаваўшыся
за цэглай Нью-Йорка
з лепшай цыгарай у зубах
уздаволены лёгкай гаворкай
цэламу свету
вы гатовы накрэсліваць шлях.
Круцячы
ў пальцах моцны шампан
з усмешкай крывой на ратах
мяркуеце:
ўзяць,
ці не ўзяць
дзесяціпунктавы план?
Паўднёва - в'етнамская праблема..?
Што вам
маткі аплакваўшыя паўшых сыноў,
што вам
мільёны крыжоў на магілах.
Злачынствы?
Нявінная кроў?
Справядлівасць — дзе сіла!
А што
вочы ад слёз высыхаюць,
што хаціны ў вёсках палаюць,
што вуліцы бомбамі ўзрыты,
што некалькі тысяч забітых,
што В'етнам — руіна адна...
Ўсё нармальна!
Гэта ж вайна!
А долараў жа хопіць у вас
марыянетак
сайгонскіх купіць на разбой,
ці напалму
транспарт даставіць у час.
Хопіць
вам грошай
каб пашырыць трагічны баланс
брудных, ваенных злачынстваў,
каб ганебны прадоўжваць сеанс
грабежаў,
забойстваў і свінстваў.
Гэта факт,
вы даволі багаты
золатам,
тэхнікай,
войскам сваім...
Аб адным вы забылі падумаць,
аб тым —
што дахаты
вам удасца вярнуцца не ўсім.
Адно
вы забылі прадбачыць:
Той дым,
што абцалоўвае ніві В'етнама
сёння ці заўтра можа ўбачыць
нью-йоркскіх дамоў
панарама.
Таму,
пакуль позна не стала,
вы зразумейце праўду адну:
магіл і ў вас то не мала
і навошта ўсё гэта, каму?
Час,
Каб мірнае сонца палала над светам!
Янкесы!
Вы чуеце гэта!?
Час паверыць,
што ваша прайграна;
гэта вам
голас міру, як гром:
— Лапы прэч ад В'етнама!
Амерыканцы, «go home»!!!

**Сяргей Сац**



 

Пачатак на стар. 1

# ПАРТЫЗАН Салавянюк

бандыцкіх групіровак асабліва выдзяляўся сваімі зверствамі крывавы атаман «Лупашка», які за бандыцкае рэмясло хутка дaслужыўся звання маёра.

Вясковыя хлопцы, якія прышлі ў бельскае Павятовае праўленне грамадзянскай бяспекі, не вельмі ведалі, што іх чакае, многія сярод іх не трымалі яшчэ ў руках вінтоўкі. Салдацкім умелaсцям вучылі іх менавіта партызан Салавянюк і Васіль Вапа, якія служыў у войску. Гэтае абучэнне было вельмі павярхоўнае.

— Пасля тыдня часу, — успамінае Шыман Вілюк, — распачалі мы ачышчальныя дзеянні. Цэлымі днямі валачыліся мы па раскіслых палях, лясах і балотах. Вярталіся мы ў Бельск заўсёды змучаныя і галодныя.

Адна з такіх паездак закончылася, на жаль, трагічна. Быў 3-ці дзень мая 1945 года. У бельскім Павятовым праўленні грамадзянскай бяспекі спадзяваліся, што лясныя банды захочуць гэтага дня прадэманстраваць сваю варожасць да народнай улады. 3-ці мая да вайны святкавалася шумна і афіцыйна.

У напрамку Сямяціч, якія былі цэнтрам антыдэмакратычнай дзейнасці банд, выехала тады з Бельска 8-міасабовая група працаўнікоў бяспекі. Узначальваў яе былы партызан з вёскі Дубіны Сцяпан Салавянюк. Ехалі старым грузавіком. Салавянюк сядзеў побач шафёра. На першых кіламетрах за Бельскам не захоўвалі належнай асцярожнасці. Тут яны не спадзяваліся сутычкі з бандамі. Мінулі вёску Пілікі. Ля дарогі стаяў разваленых мураваны будынак. Раптам пад коламі грузавіка раздаўся выбух, а з развалін будынку пасыпаўся шквальны пулямётны агонь. Грузавік раптоўна спыніўся. Сцяпан Салавянюк выскачыў з кабіны і толькі паспеў аддаць каманду: «Крыйся ў роў!» У той момант скруціўся і асунуўся на зямлю. Смяротную кулю тут жа атрымаў Лемеш, Вілюк быў цяжка паранены ў ногу, двух іншых — Мікалай Ахрымюк і Васіль Леўчук — атрымалі лягчэйшыя раны. Рэшта з іх групы шчасліва паспела заняць абарону ў прышасейным раве. Страляніна працягвалася. Банда, пасля гэта высвнілася ў час допытаў, налічвала да 60-ці чалавек. Было гэта адно з падраздзяленняў «Лупашкі». Камандваў ім нейкі «Зыгмунт». Напэўна пабілі б тады ўсіх працаўнікоў бяспекі. У іх жа не хапала патронаў. Падуладныя «Зыгмунта» перапалохаліся аднак іх стойкасці і заўзятасці. Хутка ўцяклі.

Забітага і параненых адвезлі прыгоднай фурай у Бельск. Тут, на жаль, не было каму імі заняцца, не было каму адразу зрабіць неабходную аперацыю. Салавянюк памёр пасля двух дзён ад ран, якія атрымаў у жывот, а Вілюк патраціў ногу. Іншыя параненыя надалей працягвалі адчаяннае змаганне з бандамі.

**В. Нурэцкі**

Пачатак на стар. 1

# ДАЛІНАЮ НАРВЫ

без працы... Няслушна выглядае на дурня. Няма традыцый турыстыкі, няма ўкаранёнага ў беларускай народнай свядомасці сэнсу яе. Дарэчы, турыстыку заўсёды пачынаў горад, потым пераймала яе вёска. Таму хвалю ПКС і сардэчна непакоюся марудаю, з якой будуе гарадок адпачынку ў плёскаўскім лесе, Арабчыне.

Турыстыка, гарадкі адпачынку, дадуць крыху заробку навакольным вёскам. Думаю аб Плёсках, Войшках. Паявіцца больш культуры, непрыкметна паявіцца, сарамліва неяк, а найважнейшае дык можа тое, што прападзе пачуццё забітасці, заглохласці. Бліжэй запахне элеганцтвам. Хай пахне.

Нарва паміж ПКС-аўскім гарадком і Бельскім ПТТК пакручастая і ямістая, глыбокая. Вірыстая яна.

Гэй, На-арва-а!!

На тваіх берагах дзве-тры базы турыстычныя, усе недабудаваныя, здаюцца ўтопленікамі, выкінутымі на пясчана-балоцістыя пляжы. Пясчана-балоцістыя, бо ўпарадкаванне пляжаў, іх ачыстка, з'яўляецца апошняй стадыяй будовы базы быццам у гаспадарцы: спачатку будынкі, потым панадворак.

Праміне нямнога гадоў і стане тут мнагалюдна. Што мае быць, тое будзе. Мае быць турыстыка, базы адпачынку. Яны будуць, яны ўжо амаль ёсць. І не толькі адны працаўнікі базаў, мясцовыя адзіночкі з блізкіх вёсак, будуць хваліцца, што ў сезон зарабляюць па дзве тысячы залатых у месяц — ладны кавалак на падтрыманне гаспадаркі.

Скажуць, грошы грашыма, а я ж гаварыў пра найважнейшае: прапажу пачуццяў забітасці. Няма і не можа быць нічога агіднейшага ў чалавеку, як ягоная пагарда да гнязда свайго. А вынікае яна ад захаплення горадам, адкрытага або патайнога. Дык няхой горад захапляецца намі, Нарвай нашай, прыродай нашай, прасторай нашай. Так будзе справядлівей.

**Ал. Анташэвіч**

# Набліжаецца 20 год „ДОМУ КНІЖКІ“

«Дом кніжкі» — дзяржаўнае прадпрыемства, якое ў сваіх руках згуртавала гандаль кніжкай, набліжаецца да свайго юбілею — 20-ці год існавання. Кнігарні ўсяго ваяводства рыхтуюцца да гэтага свята. Сярод працаўнікоў кнігарняў Беластоцкага ваяводства ёсць многа юбілятаў, заслужаных ужо кнігароў.

Кнігарняў беластоцкі «Дом кніжкі» мае 56. 11 з іх у горадзе Беластоку, 24 у павятовых гарадах (у тым у 8-мі паветах па дзве), і 18 у мясцовасцях меншых і вёсках.

Абароты «Дому кніжкі» на Беласточчыне ўзрослі. У 1950 годзе абарот быў 4 мільёны зл., што давала толькі 4 зл. на аднаго жыхара. У 1960 годзе ўжо абарот быў 19 мільёнаў — 17,25 зл. на асобу, а ў 1968 годзе — абарот 40 мільёнаў і 34 зл. на асобу.

За 19 год сваёй дзейнасці «Дом кніжкі» прадаў на Беласточчыне 29 мільёнаў кніг на суму 360 мільёнаў злотых.

Паводле ўступных падлікаў у 1985 годзе дойдзем да 120 мільёнаў выдадзеных залатовак на пакупку кніжак, што дасць нам 85 зл. на адну асобу. У тым жа 1985 годзе плануем мець у ваяводстве сто кнігарняў «Дому кніжкі». (вл)

# ВЫСТАЎКА 25-ГОДДЗЯ

Выстаўка 25-цігоддзя ў Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку ўпершыню ў шырокім маштабе дае нам вобраз нашай асветы, навукі і культуры за ўсе пражытыя 25 год новай Народнай Айчыны.

Ініцыятыва выстаўкі нарадзілася ў Музеі і яго працаўнікамі была рэалізавана. Выдатную дапамогу і падтрымку аказалі ўсе зацікаўленыя навуковыя і культурныя ўстановы Беластока і беластоцкай зямлі. На выстаўку складаюцца фатаграфіі — 264 штукі, экспанаты і дакументы — 231 штука. Да экспанатаў залічаем тут беластоцкія выдавецтвы, газеты, каталогі, розныя народныя вырабы, навуковыя вынаходствы беластоцкіх вучоных.

* * *

Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку належыць да навукова-культурных устаноў вельмі дынамічных. Адкрыты ў канцы 1963 года мае ўжо багатыя дасягненні ў навуковай і асветнай працы. У Музеі адкрыта пастаянная экспазіцыя, якая паказвае рэвалюцыйны і рабочы рух Беласточчыны ад 80-х гадоў XIX стаг. да аб'яднання польскага рабочага руху ў 1948 годзе. Сотні дакументаў і фатаграфій людзей, якія змагаліся ва ўсіх гадах за сённяшні дзень. Людзі працы і барацьбы, фабрычныя забастоўкі, дэманстрацыі, падпольная дзейнасць, партыйныя білеты, лістоўкі, старыя газеты, партызанскія вінтоўкі... Уся навейшая гісторыя ляжыць перад нашымі вачыма, гаворыць да нас дакументамі.

Экспанаты Музея — гэта дары людзей, якія часта ў цяжкіх і небяспечных умовах пераховўвалі дакументы.

У спіснай кнізе пад паасобнымі нумарамі чытаю назвы экспанатаў і пры іх прозвішчы людзей, ад якіх прыйшлі сюды ў Музей. Многія героі барацьбы яшчэ жывыя, працуюць.

Экспанаты вучаць і прыпамінаюць. Славай гучаць 50 сцягоў палітычных партый і маладзёжных арганізацый. Вось сцяг Ваяводскага камітэта Польскай рабочай партыі ў Беластоку, сцягі павятовых органаў ППР, сцягі ЗВМ, ЗМП. Вось медалі, напрыклад, выдадзены для адзначэння рэвалюцыі 1905 года, значкі ППС, ППР, вось судовыя прысуды на камуністаў з дваццатых гадоў.

Як сімвал і памяць славы найбольшай вырастае перада мной партызанская вінтоўка ў адказ на кавалкі мыла робленыя фашыстамі з людзей (9 кавалкаў такіх знаходзіцца ў музеі).

Калі пакідаю забытковыя зацішныя залы Музея, чую яшчэ пружыністы крок майскай дэманстрацыі ў Беластоку з 1925 года, цвёрдыя словы гімна: «гэта бой наш апошні...» Сцяг гэтай першамайскай дэманстрацыі, арганізаванай КПЗБ, знаходзіцца ў Музеі і расказвае цікавую гісторыю...

**Вера Леўчук**







«Чалавек — гучыць горда».
(М. ГОРКІ)

Сустрэліся мы выпадкова ў цягніку, які імчаўся з Седльцаў у Беласток. Быў вясенні цёплы дзень. Ля акна сядзеў малады чалавек, якому магло быць не больш 30 год. На першы позірк нічым асаблівым не адрозніваўся ён ад іншых маладых людзей у яго ўзросце. Падоўжаны твар, ясныя валасы, даўгаваты нос. Толькі вочы... Яны неяк прыкоўвалі ўвагу. Чысты, ясны, крыху задумёны яго позірк блудзіў па загонах аджыўшай азіміны, што мільгацела за акном цягніка. У гэтых вачах відаць было шчырасць і ўпэўненасць.

На падаконніку ляжаў пачак папяросаў і пачак запалак. Мой спадарожнік працягнуў правую руку па папяросы. Тады я пабачыў, што ў яго на гэтай правай руцэ не хапае трох сярэдніх пальцаў. Асталіся толькі два: вялікі і мезінец. За хвіліну я пераканаўся, што замест другой, левай рукі, звісае ў яго пусты рукаў.

«Няшчасны чалавек» — падумаў я і паспяшаўся падаць яму агонь. Ён усміхнуўся і ветліва сказаў:

— Дзякую, я сам прыкуру.

І сапраўды, так спраўна дастаў ён папяросу і, прытрымаўшы куксай пачак, запаліў запалку, што я са здзіўлення цалкам нахабна прыглядаўся да яго, бы цяля на маляваныя вароты.

— Гэта ад вайны, — сказаў мой спадарожнік, як бы дадумваючыся, што я хачу яго пра гэта запытаць. — Я з вёскі Вілінава. Чулі можа пра такую вёску?

— Так, гэта ў Сямяціцкім павеце, — адказаў я хутка.

— Было мне 12 год, — працягваў ён, — разам з іншымі хлапчукамі пасвіў я бацькоўскія кароўкі. Вось аднойчы знайшлі мы на выгане гарматні снарад. Мне захацелася дастаць з яго порах...

Ён замоўк на хвіліну, вочы яго пасмутнелі.

— А зараз дзе вы жывяцё?

— Там жа, у Вілінаве. Працую на гаспадарцы. Яна ў мяне невялікая, усяго ледзь тры гектары...

— І вы сам...

Ён зноў усміхнуўся. Мне здавалася, што з маёй недаверлівасці і... наіўнасці.

— На жаль, — сказаў рашуча, — няма каму выручаць мяне ў працы. Бацька памёр у 1968 годзе, а маці — старая, ёй ужо 72 гады. Я ў яе адзін астаўся. Іншыя дзеці павыходзілі замуж і пажаніліся, пайшлі з хаты. Дык я сам ару, сею, кашу, запрагаю і выпрагаю каня... Ну, усё, што трэба на гаспадарцы.

Я яшчэ раз паглядзеў на яго пусты ніжэй локця левы рукаў і на гэтыя два пальцы ў правай далоні і не хацелася мне верыць яго словам.

— Спачатку цяжка было. Але ўсяму можна навучыцца. Толькі трэба моцнай волі. Я не хацеў быць горшы ад іншых.

— Не прабавалі вы паступіць на працу ў нейкае бюро? — пацікавіўся я.

— Там патрабуюць людзей адукаваных. А мяне бацькі не вучылі, не было як мяне вучыць. Аднак я маю прафесію: я сталяр — паліроўшчык. Патраплю так абшліфаваць кожную мэблю, што будзе яна блішчаць, бы люстра. Навучыўся я гэтай прафесіі ў Драгічыне, дзе нейкі час працаваў у сталярскай спулдзельні.

Зацікавіў мяне гэты чалавек. Яго прозвішча — Федзя Канаховіч. Аказалася, што доўгі час з'яўляўся ён душой маладзёжнага руху ў Вілінаве. Заўсёды вясёлы, любіў танцаваць і спяваць.

Зімой 1961 года прыехаў з Сямяціч у Вілінава нейкі актывіст Саюза вясковай моладзі. Хацеў заснаваць у Вілінаве гурток гэтай арганізацыі. Дык звярнуўся за дапамогай да настаўніка Зоха, а ён адаслаў яго да Канаховіча. І гурток ЗМВ у Вілінаве ўзнік. Налічваў звыш 30 членаў, а Федзя праз 5 год быў яго старшынёю.

Год пазней пасля заснавання гуртка ЗМВ Канаховіч арганізаваў у Вілінаве гурток БГКТ.

— Запісалася ў яго, — расказвае ён, — каля 50-ці чалавек. Найперш пачалі мы вывучаць п'есы. Ставілі «Прымакоў», «Конскую кніжку» і іншыя. Аднойчы здарылася вось так: гурток наш меў ехаць на павятовы агляд мастацкіх аматарскіх калектываў. На дзень перад выездам прыходзіць да мяне сябра Касперук, які выконваў ролю Петруся з п'есы «Конская кніжка», і кажа мне, што на агляд не паедзе, што мае вельмі важныя сямейныя справы. «Што рабіць?» — думаю. Пытаю таго, сяго, каб заступіць Касперука. Ніхто не хоча. А ехаць нам жа абавязкова! Дык пайшоў я дахаты, зачыніўся на замок у пакоі і прыказаў маме, каб мне не перашкаджала, а сам пачаў вывучаць гэтую ролю. Мама пытала праз дзверы: «Федзя, да каго ты так толасна і дзіўна молішся? Што сталася? Скажы! Ці што дрэннае? «А я без перапынку хадзіў па пакоі і барматаў пад носам словы Петруся. У гэтую ноч я зусім не спаў. Надосвітку памыўся, крыху з'еў і разам з іншымі сябрамі пайшоў на цягнік. У аглядзе заваявалі мы першае месца. Прызналі нам паўтары тысячы злотых узнагароды.

Вялікім грамадскім мерапрыемствам жыхароў вёскі Вілінава з'яўляецца пабудова вясковага дома культуры. Кошт яго пабудовы — 550 тысяч зл. Пабудову пачалі восенню 1967 года, а ўжо на 22 ліпеня г. г., калі ўся краіна будзе ўрачыста адзначаць свой знамянальны юбілей, дом культуры ў Вілінаве мае быць гатовы. Павятовы аддзел культуры адвёў на гэты дом толькі 50% коштаў яго пабудовы.

— Адкуль вы ўзялі рэшту грошай? — пытаю Канаховіча. — Гэта ж столькі тысяч злотых!

— Арганізавалі мы забавы, мастацкія выступленні, праводзілі добраахвотны збор складчын, людзі ападаткаваліся. А найважнейшае — усе дружна працавалі. Не было ніводнага гаспадара, каб адказаўся ад працы. Солтыс дагаварваўся з майстрам, колькі яму трэба на нейкі дзень людзей, і тады ішоў заказваць. Хто не мог, абавязаны быў папрасіць суседа або каго іншага, каб яго заступіў, а пасля за яго адпрацоўваў дзень. Я сам, — горда сцвярджае Канаховіч, — аж два дні працаваў з лапатай пры гэтай будове.

Ён яшчэ з захапленнем гаворыць, што ў гэтым доме культуры будзе кіна-тэатральная зала, чытальня і кафейная, што будзе штатны кіраўнік.

— Вось тады газгорнецца ў нас культурная праца!

У яго словах — упэўненасць, радасць і вера ў дабрадзействы супольнай, грамадскай дзейнасці.

Як жа я тады памыляўся, калі ў першую хвіліну нашай сустрэчы лічыў яго няшчасным і знявечаным калецтвам чалавекам! Ён пераадолеў сваё няшчасце, якое няўдзячны лёс усклаў на яго. Перамог сам сябе. І насуперак няшчасцю адчувае сябе паўнавартасным чалавекам.

— А куды вы цяпер едзеце? — асмеліўся я запытаць яго.

— У Беласток, — адказаў ён. — Там у мяне ёсць сваякі. Хачу іх папрасіць на сваё вяселле. Пара ж мне ажаніцца.

**Віктар Рудчык**



 

З праблемаў нацыянальнага школьніцтва (3)

# АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫЯ ЛІЦЭІ

У Беластоцкім ваяводстве існуе 3 агульнаадукацыйныя ліцэі з няпольскай мовай навучання: у Бельску і Гайнаўцы з беларускай і ў Пуньску з літоўскай мовамі навучання. Апрача таго ёсць два ліцэі, дзе вывучае родную мову моладзь: у Міхалове (вучыцца 60 вучняў беларускай мовы) і ў Сейнах (7 вучняў літоўскай мовы).

### МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ ЎМОВЫ

У апошнім часе найлепшыя памяшкальныя ўмовы мае ліцэй у Бельску, дзе аддадзена ў карыстанне 15-памяшкальны будынак, у якім змяшчаецца пачатковая школа з 14 аддзеламі. Ліцэй у Гайнаўцы мае пасрэдныя ўмовы. Школа змяшчаецца ў старым аднапавярховым будынку з малой колькасцю адпаведных памяшканняў для навукі, што не спрыяе ўласцівай арганізацыі дыдактычнай і выхаваўчай працы. Абеспячэнне навуковымі дапаможнікамі гайнаўскага ліцэя недастатковае, а папраўа гэтага, з прычын малой колькасці памяшканняў, немагчымая.

### НАСТАЎНІЦКАЯ КАДРА

Кваліфікацыі настаўніцкай кадры ў ліцэях з беларускай мовай навучання ацэньваюцца як задавальняючыя. Настаўнікі з няпоўнай вышэйшай адукацыяй вучаць тут толькі тых прадметаў, на якіх недахоп спецыялістаў адчувае не толькі ваяводства, але і ўся краіна (фізкультура, тэхнічнае выхаванне і замежныя мовы). 50% настаўніцкай кадры ў беларускіх ліцэях мае поўныя кваліфікацыі са ступенню магістра (г. зн. 15 на 29), 7 асоб мае студыя I ступені і 7 закончыла СН. Траіх настаўнікаў з няпоўнай вышэйшай адукацыяй вучыцца, дзве асобы пачало студыя II ступень (магістэрскія), а двух настаўнікаў Мікола Гайдук і Ян Петручук пачалі пісаць доктарскія работы.

### ВУЧНІ

Магчымасці набору ў беларускія ліцэі добрыя. Існуе аж 113 васьмікласных пачатковых школ, у якіх навучаецца беларуская мова. У двух ліцэях вучылася ў 1968/69 г. 492 вучні. Прыймаючы, што 18% абсальвентаў пачатковых школ трапляе ў агульнаадукацыйныя ліцэі, трэба было б у першы клас прыймаць у Беластоцкім ваяводстве ў год **320 вучняў**, а тым часам абодва ліцэі маюць у першых класах **толькі 160 месц.**

Пабольшанне колькасці кандыдатаў у беларускія ліцэі (асабліва гайнаўскі) залежыць ад арганізацыі інтэрнатаў для гэтых ліцэяў і павелічэнне стыпендыяльнай дапамогі, што дазволіла б на матэрыяльную дапамогу вучням пасрэдным, а не толькі добрым і выдатнікам.

### ВЫНІКІ НАВУЧАННЯ І АЦЭНКІ

Даныя Куратарыі сведчаць аб тым, што ў ліцэях з няпольскай мовай навучання за апошнія пяць год наступіў значны прагрэс, калі разыходзіцца аб эфектыўнасць працы з пэўнымі затарможэннямі ў бельскім ліцэі ў апошнім годзе. А вось прыклады:

#### СПРАЎНАСЦЬ НАВУЧАННЯ

| Ліцэй | Спраўнасць навучання ў % у г. 1964 | 1965 | 1966 | 1967 | 1968 |
|---|---|---|---|---|---|
| Бельск | 44,4 | 49,5 | 74,0 | 88,1 | 79,5 |
| Гайнаўка | 46,0 | 58,1 | 63,9 | 102,4 | 78,6 |
| Сярэдняя ў ваяводстве | 56,6 | 69,3 | 71,0 | 76,4 | 73,9 |

#### ПЕРАВОД У НАСТУПНЫ КЛАС

| Ліцэй | Перавод у наст. клас у % у г. 1964 | 1965 | 1966 | 1967 | 1968 |
|---|---|---|---|---|---|
| Бельск | 86,3 | 88,6 | 93,7 | 95,2 | 88,9 |
| Гайнаўка | 85,8 | 90,6 | 95,3 | 95,0 | 96,8 |
| Сярэдняя ў ваяводстве | 89,1 | 91,2 | 93,2 | 91,9 | 91,5 |

У кураторыйнай ацэнцы **бельскага** ліцэя гаворыцца, што вынікі працы ліцэя зусім задавальняючыя. У дыдактычнай працы відавочны пастаянны прагрэс. Сярод моладзі пануе здаровае спаборніцтва і імкненне да асягання грунтоўных ведаў. Правільна акрэслена кірунак выхаваўчай працы ў галіне захавання нацыянальных пачуццяў з аднначасовым пабуджаннем прывязанасці да Народнай Польшчы. Ліцэй з'яўляецца перадавым у галіне матэматычна-прыродазнаўчых прадметаў, а таксама мае высокі ўзровень навучання рускай мовы.

Вынікі дыдактычнай працы **гайнаўскага** ліцэя ацэньваюцца як пасрэдныя. Школа бачыць прычыны гэтага стану і стараецца асягнуць папраўу перш за ўсё ствараючы лепшую апеку над моладдзю. Даязджаючым вучням, якіх тут 60% агульнага ліку школьнай моладзі, арганізуецца гарачае харчаванне і іншыя. Ліцэй у Гайнаўцы яшчэ не зусім выразна бачыць сваю спецыфіку, а ў сувязі з тым не акрэсліў сваіх заданняў у галіне распаўсюджвання нацыянальнай культуры.

У прапановах Куратарыі знаходзім сцверджанне, што, каб палепшыць умовы моладзі беларускай нацыянальнасці, існуе неабходнасць пабудовы інтэрнатаў пры агульнаадукацыйных ліцэях у Бельску Падляшскім і Гайнаўцы.

(Апрацаваў на падставе інфармацыі Куратарыі на пасяджэнні Нацыянальнай Камісіі ВКПАРП

**А. Карпюк**

Зіна Пракапюк з Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску палюбіла геаграфію. Яна паказвае маршрут экскурсіі, на якую выбіраецца ў сёлеташнія канікулы.
Фота Цаф — Сянько

АДГАЛОСКІ

## А можа беларускае „НО ТО ЦО"?

Нядаўна давялося мне пабываць на фесце ў Семяноўцы, арганізаваным Беларускім таварыствам Гайнаўшчыны. Там убачыў і пачуў я эстрадны калектыў з Арэшкава. Добры калектыў. Феставыя госці слухалі яго выступленне з такім задавальненнем, што спачатку здалося: гэта слаўны Гарадок. Памылка вынікла ад таго, што спевакі вялі сябе на сцэне прыемна і сардэчна; і яшчэ ад таго, што былі апрануты па-беларуску. Памылка мая ўрэшце аказалася слушнай, але ў іншым сэнсе. Як свайго часу Гарадок, так і нованароджанае Арэшкава, побач са славай перажывае і шмат прыкрасцей. На пацяшэнне скажу, што людзі, перш чым прызнаць чыюсьці ўдачу, павінны спачатку пагадзіцца з ёю, выбачыць! Вядома, мудрасць гэта датычыць тых, якім коле ў вочы чужая ўдача...

Арэшкаўцы вельмі спадабаліся. Спявалі яны «Но то цо»-оўскія ці «скальдоўскія» песні. У іх выканаўчай манеры ўбачыў я магчымасць папулярызацыі беларускіх песень. Папулярызацыі праўдзівай, папулярызацыі такой, калі моладзь не толькі чуе беларускую песню са сцэны, але хапае яе на ўласнасць, спявае ў хаце, на лаўцы збоку святочнай вуліцы, у час вяселляў.

Сонным прывідам ўспомніліся твары БГКТ-аўскіх музыкаў — і тых, па сваіх магчымасцях, і тых, па сваёй адукацыі, — якія папулярызацыю беларускай песні разумеюць як простае ўзбагачэнне музея народных мелодый, даючы (незнарокам) уцеху вучоным-фалькларыстам-наспецыялізаваным архівістам мінуўшчыны. Ды ўвогуле размовы з такімі музыкамі навяваюць нястрымную сонлівасць...

Адчуваю нешта паніжаючае, калі бачу зацікаўленне да «Лявоніхі» як да акварыума фальклору. З гэтым вяжацца візія чагосьці застыўшага, адзеравянелага. Непладатворнага. На месцы «Лявоніхі» я б ніколі не пагадзіўся з перспектыўнай роляй музея; на месцы аранжараў яе я б ніколі не пагадзіўся з перспектывай праваднікоў па гэтым жа музеі, наспецыялізаваных аж да сухасці, аж да абыякавасці. Я б народныя песні беларускія спрабаваў бы пераўтварыць у нацыянальныя, значыць, у песні змагання. Хай нікога не палохае змагарніцкая назва, ад якой дыхнула адгрымеўшай гісторыяй. Змагацца трэба за сённяшні дзень, не за той, што настае з усходам сонца і ясноты, але за той, што жыццём завецца, будучыняй. Апольскі фестываль даў нам прыгожы прыклад таго ўсяго: нарадзіўся ён з ідэі стварэння сучаснай нацыянальнай польскай песні. Нацыянальнай таму, бо нешта абагульняючай у жыцці народа. А сучаснай таму, бо ўвабраўшай у сябе атракцыйныя формы мелодый. З атракцыйнай функцыяй рыфмы мы пагадзіліся тысячу год таму назад. З біг-бітам годзімся цяпер. Адно і другое — гэта нішто іншае, як сродкі будавання арыгінальных формаў, сваіх! Беларускіх.

Арэшкаўцы паказалі: формы свае не тое, што магчымыя, яны патрэбныя! Чаму гэта сярод музыкаў, даючых паслугі ГП БГКТ, застаецца незаўважанай — нават модная — мастацкая ідэя выкарыстання скарбаў культуры народнай шляхам сучаснай арганізацыі? Напрыклад, «Но то цо» проста крычыць,

Арэшкаўскія самадзейнікіі.
Фота Я. Цялушэцкі

хаця б і сваёй перакорнай назвай, каб спяваць сваё, сваё, сваё. «Но то цо»!? Чым сваё горшае? Чэслаў Нёман у размове са мною заўважыў, што ў песнях народных вялікія магчымасці інтэрпрэтацыі, бо яны, дасканаленыя пакаленнямі, гавораць пра найважнейшае і найважнейшымі словамі...

Ды мы бы тыя лётчыкі ў тумане, глядзім на штучны гарызонт і вышыні «мазоўшаў», «слёнскаў», наіўна кідаючы ў канкурэнцыю падобным калектывам свае — альбо робімся горшай ці лепшай праграмай радыё-тэлевізійных канцэртаў. Крывімся на новае: вальс слынны таксама радзіўся сярод дарослага рогату пагарды. За яго не адна паненка дастала ад бацькі лейцамі, сто год таму назад. А цяпер: і «Беларускі вальс», і «Англійскі вальс», рускі, польскі і г. д. Ці біг-біт і беларуская народнасць — гэта агонь і вада? Не. Дык чаму не выкарыстоўваем сучасных сродкаў? Пытанні да «Лявоніхі» (папупярызацыя!), да музыкаў на панадворку ГП БГКТ.

Да арэшкаўцаў не маю пытанняў, маю ім адны словы пахвалы. Яны прыклад магчымасцей. Добры прыклад.

**Сакрат Яновіч**

**P. S.** — Тысячы беларускіх народных песень у шматтомным «Людзе беларускім» Міхала Федароўскага (у кожнай большай публічнай бібліятэцы), у гадавіках «Нівы» (таксама ў кожнай большай бібліятэцы), у беларускіх календарах (таксама там жа) ...І т. д.

## СВЯТОЧНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

**З нагоды 25-годдзя Польскай Народнай Рэспублікі ва ўсёй краіне адбыліся ўрачыстыя сходы і вечарыны. Гэтай падзеі было таксама прысвечана супольнае ўрачыстае пасяджэнне Павятовага камітэта ПАРП, Павятовай рады нарадовай і Павятовага камітэта Фронту адзінства народа ў Гайнаўцы.**

**Урачыстае супольнае пасяджэнне, на якое быў запрошаны грамадскі актыў з усяго павета, адкрыў старшыня Прэзідыума Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы А. Хілецкі. З дакладам аб дваццаці пяці гадах Гайнаўшчыны, аб людзях і іх дасягненнях, выступіў I сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Аляксей Лазоўскі.**

**Ва ўрачыстым пасяджэнні прыняла ўдзел дэлегацыя Гродзенскай вобласці БССР.**

**У час ўрачыстага пасяджэння група дзеячаў Гайнаўшчыны атрымала ордэны і медалі. Уручаў іх старшыня Прэзідыума ПРН А. Хілецкі. Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы атрымаў жыхар вёскі Сакі Міхал Адамец, — удзельнік II сусветнай вайны, пасол ў Сейм. Залаты Крыж Заслугі атрымалі: Кірыл Баравік — настаўнік з Вітава, Вітальд Голуб — з ГЗПД, Лідзія Галіцкая — працаўнік ГРН у Нарве і іншыя.**

**У мастацкай частцы выступіў народны ансамбль песні і танца з Навагрудка (БССР). З гэтым калектывам пазнаёмім чытачоў у наступным нумары «Нівы».**

**Старшыня Павятовай рады А. Хілецкі дэкаруе Кавалерскім Крыжам Адраджэння Польшчы Міхала Адамца.**

**Калона сцяганосцаў.**
Тэкст і фота А. Карпюк




**Карэспандэнцыя з Венгрыі (1)**

## НАДДУНАЙСКАЯ ЖАМЧУЖЫНА

Венгры належаць да групы народаў уграфінскіх, якіх сядзібай першапачаткова былі праўдападобна абшары па між Аральскім возерам і Уралам. У II тысячагоддзі да нашай эры уграфінская абшчына распалася пад націскам іншых народаў, а галоўным чынам іранскіх, гатыцкіх і турэцкіх. У выніку гэтага распаду паўсталі дзве асноўныя групы: 1) фінска-пермская 2) угорская, з якой непасрэдна і выводзяцца мадзьяры г. зн. венгры.

На пераломе старой і новай эры венгры ў асноўным займаліся гадоўляй коней і так са сваімі чародамі прывандравалі да Паўднёва-Усходняй Еўропы. На пачатку IX стагоддзя свабодныя дагэтуль вянгерскія плямёны між Донам і Дняпром стварылі дзяржаву. Пасля кароткай пабыўкі на стэпах Украіны венгры павандравалі далей на захад даходзячы да вялікай наддунайскай раўніны Панонія. Зямля, якую занялі мадзьяры, не была нічыёй зямлёй. Надоўга перад імі жылі тут цэльтыцкія плямёны. У I стагоддзі да нашай эры рымляне занялі вялікія прасторы над Дунаем, пабілі цэльтыцкіх жыхароў і залажылі ў 11 годзе да нашай эры сваю калонію. Гэтая правінцыя называлася Паноніяй. Але вяртаемся да сённяшняга.

Будапешт — гэта не толькі сталіца ВНР, але таксама санатарыйна-курортны цэнтр. Знаходзяцца тут гарачыя лячнічыя крыніцы, а 125 пунктаў дае ў дзень каля 70 мільёнаў літраў мінеральнай вады, з чаго палова з тэмпературай больш 30°С. Лячнічыя воды Будапешта вядомыя ва ўсім свеце. Хачу сказаць, што знаходзіцца тут яшчэ турэцкая лазня, дзе ёсць вада багатая ў рад, якая мае дасканалыя ўласцівасці для паспяховага лячэння рака. Тут кожны дзень можна сустрэць сотні людзей са збанкамі па радачынную ваду.

За часоў рымлян на месцы сённяшняга Будапешта былі розныя пасёлкі. Найбольш развітымі былі Буда і Пешт, якія ў 1872 годзе былі спалучаны і атрымалі сённяшняе названне горада, а таксама прывілегіі другой сталіцы аўстра-вянгерскай манархіі.

Пабываўшы ў Будапешце нельга не наведаць гары Галерт, на вяршыне якой віднее помнік, які прадстаўляе багіню перамогі Нікэ, а ўнізе яго помнік савецкага салдата. З гары можна прыглядзецца панараме горада, а першым, што кідаецца ў вочы, гэта найбольш вядомы будынак Пешта-Парламент. Гэты неагатыцкі гмах мае лёгкі амаль карункавы сілуэт.

Вакол старога горада выраслі прамысловыя кварталы. Трэба сказаць, што да II сусветнай вайны тут канцэнтравалася 2/3 вянгерскай прамысловасці. Больш 53% рабочых прамысловасці пражывала ў Будапешце. Зараз міма планавага і раўнамернага развіцця прамысловасці ў іншых раёнах краіны, Будапешт усё ж з'яўляецца цэнтрам для 40% рабочых прамысловасці, у тым для 3/5 рабочых металургічнай і тэкстыльнай прамысловасці. Найбольшая канцэнтрацыя маецца на востраве Чэпель (востраў даўжынёй каля 50 км.).

А калі пры астравах, дык неабходна сказаць некалькі слоў аб востраве св. Маргарыты (57 гектараў). Гэта найслаўнейшы рэкрэацыйны цэнтр. Ёсць тут шмат зелені, дасканала ўтрыманы парк, купальныя басейны запоўненыя гарачай і цёплай вадой, спартыўныя пляцоўкі, рэстараны і цудоўны японскі садзік. Востраў Маргарыты называюць таксама вострвам маладосці і кахання, і гэта заўважальна прыбыўшаму сюды.

Толькі аб краіне і аб гасцінным Будапешце. У наступнай карэспандэнцыі аб сустрэчах з людзьмі асветы і школьніцтва.

**А. Карпюк**



Памятнік на гары Галерт.

Фрагмент будынка Парламента.



## Зубы з-пад Ватэрлоо



Штучныя зубы пачалі вырабляцца параўнаўча нядаўна. У даўнія часы на месца папсаваных зубоў устаўляліся зубы зробленыя са слановай косці, але найчасцей выкарыстоўваліся для гэтай мэты натуральныя зубы салдат, якія загінулі ў бітвах.

У першай палове 19 стагоддзя многія людзі, самі не ведаючы аб гэтым, насілі ў роце зубы загінуўшых пад Ватэрлоо салдат. Натуральныя зубы, перад тым, як уставіць, доўга кіпяцілі, але ўсе роўна яны за кароткі час парахнелі.

У другой палове 19 стагоддзя паявіліся і пачалі шырока прымяняцца штучныя зубы, аднак адна з лонданскіх газет звяртала ўвагу на тое, што дэнтысты, замест таго, каб рабіць штучныя зубы, выкарыстоўваюць натуральныя, якія ім дастаўляюць зграі «вырывальшчыкаў зубоў» з палёў бітваў грамадзянскай вайны ў Амерыцы. (я)




## ЯГАДНЫЯ СОКІ Ў БУТЭЛЬКАХ БЕЗ ЦУКРУ І З ЦУКРАМ

Сокі могуць быць прыгатаваны з парэчак, чарніц, малін, вішні.

1. Ягады абмыць, адцадзіць, перабраць, ачысціць (з вішні дастаць костачкі) размяць.

2. Рукамі або прэсам выцiснуць сок праз пракіпячоны палатняны мяшочак.

3. Жамерыны заліць кіпячонай вадой (каля 1 шклянкі вады на 1 л. жамерынаў) і пакінуць на 1 гадзіну.

4. Выцiснуць сок яшчэ раз і змяшаць з сокам, выцiснутым раней.

5. Сок разліць у пракіпячоныя бутэлькі, пакідаючы ніжэй адтуліны каля 4 см свабоднай прасторы.

Прыгатаваць пасуду і палажыць на дно драўняную або папяровую падкладку, паставіць бутэлькі, напоўніць пасуду вадой так, каб узровень яе даходзіў да 3/4 вышыні бутэлек. Пасуду накрыць, награваць і кіпяціць 20 мінут.

Сокі могуць быць прыгатаваны і з цукрам, які дадаецца да пастэрызацыі па 200—500 г на л. соку (у залежнасці ад віду пладоў).

**АЛЯКСАНДРА УС, АЛЕНА УЛАДЗІМІРАВА**




### КАМЕННАЯ, 32. Г. А.

Па бязлюдных вуліцах міма руін і пустак ідзе высокая жанчына. У шырокай доўгай спадніцы, у паркалёвай хусцінцы, завязанай пад барадой. На руцэ вісіць кош, у ім палымнеюць півоні. Стрэўшы рэдкага прахожага, жанчына ціхенька паўтарае: «Купляйце кветкі!»

Так праз увесь горад ідзе яна аж да сквера, што на вуліцы Энгельса, і ўладкоўваецца на свабоднай лаўцы. Вымае і раскладае кветкі. Не вельмі многа да іх ахвотнікаў, але ўсё ж патрохі купляюць. Некаторыя бяруць усяго па адной пунсовай півоні. Жанчына за кароткі міг паспявае нешта сказаць ім або непрыкметна перадаць нейкія лісткі.

— Што гэта вы Ганна Аляксееўна сталі кветкамі гандляваць? — цікавіліся суседкі.

— А з чаго жыць? Я ж хворая, працаваць не магу.

У доўгія размовы Ганна Аляксееўна не ўступае. Яна ветлівая, але немнагаслоўная, ніякіх новых знаёмстваў не заводзіць, жыве ціха, спакойна. Домік яе, на першы погляд, нібы пустуе.

Ад вайны Ганна Аляксееўна працавала старшай медсястрой — гаспадыняй у Клінічным гарадку. Нетаропкая, спраўна вяла сваю вялікую гаспадарку. І раптам — бамбёжкі, пажары, варожыя дэсанты. Урачы і медсёстры пайшлі ў ваенкамат. А ёй сказалі: «Глядзі, Ганна Аляксееўна, за парадкам». А калі б і не сказалі, дык яна ўсё роўна глядзела б.

Ці то на трэці, ці на чацвёрты дзень вайны, пасля кароткага «зацішша», сёстры ўвечары ўбачылі на двары Клінічнага гарадка дзіця. Ад голаду і стомы яно ледзь перастаўляла ногі. Прылашчылі яго, пакармілі, а самі пайшлі ў той бок адкуль вялі слядочкі маленькіх ножак. Ці няма там каго яшчэ? І вось у падвале 4-га корпуса знайшлі 20 маленькіх дзяцей. Самы старэйшы, шасцігадовы, і адважыўся выйсці з падвала. Аказваецца, у бамбёжку дзяцей схавалі ў падвале, а потым па іх ніхто не прыйшоў. Мусіць, той, хто хаваў, не змог прыйсці ці быў забіты.

Гэтых дзяцей сёстры вывелі з падвала ледзь жывымі. Хто з іх мог — поўзалі па бруднай падлозе і навобмацак цягнулі ў рот стружкі і смецце. А хто не мог — сплаканыя ляжалі пластам. Двое былі нежывыя.

Паўтара тыдня адхайвалі гэтых дзяцей. Самага маленькага, якому было месяцаў шэсць знайшоў узрадаваны бацька. Некаторых пазналі знаёмыя, а астатніх узялі ў дзіцячы дом, які арганізавалі ў раёне Камароўкі жанчыны з Чырвонага Крыжа.

Ці выжыў хто з гэтых дзяцей? Ці знайшлі іх бацькі?

Былы пракурор аддзела па справах непаўналетніх Аляксандр Андрэевіч меў вялікую сям'ю і не паспеў выехаць з Мінска. Ён прыйшоў у Клінічны гарадок і сказаў: «Вазьміце санітарам». Мужчынскія рукі былі патрэбны, і яго ўзялі. Працаваў ён, да ўсяго прыглядаўся, вывучаў людзей.

У нетаропкай, разважлівай Ганне Аляксееўне ён заўважыў надзвычайныя якасці арганізатара. І вакол яе былі надзейныя людзі: медсястра Усціння Данілаўна Жогла, Ганна Сцяпанаўна Ананьіна, доктар Уладысік, санітарка Ганна Іванаўна Купрышчанкава. Ганне Аляксееўне Мохавай ён і пачаў перадаваць напісаныя ад рукі лістоўкі і зводкі Інфармбюро.

Домік Ганны Аляксееўны па Каменнай, 32 (цяпер 30) паступова ператвараўся ў явачную кватэру. Мохава добра ведала прафесара Клумава: раней працавала з ім 15 гадоў. І Яўген Уладзіміравіч паважаў яе. Гэтай далікатнай, сардэчнай, ветлівай жанчыне ён вельмі давяраў.

А Маркевіч уладкаваўся на радыёзавод: ён ведаў, як спатрэбяцца патрыётам радыёпрыёмнікі і запасныя часткі да іх. Там ён узначаліў партыйную групу і пачаў дзейнічаць.

Перапісаныя ад зводкі Савецкага Інфармбюро і складзеныя членамі падпольнай групы лістоўкі А. А. Маркевіч, Л. Г. Флейшар, Г. С. Ананьіна расклейвалі на ўцалелых дамах, на Камароўскім рынку раскідалі па Лагойскім тракце і ў іншых месцах.

У снежні падпольная група змайстравала шапірограф і наладзіла рэгулярны выпуск зводак Савецкага Інфармбюро і падпольнай газеты «Патрыёт Радзімы».

На кватэры, дзе жыў Маркевіч, па Пушкінскай, 35, пасяліўся гестапавец. Нішто сабе суседства! Сям'я камуніста, і сям'я гестапаўца на агульнай кухні... Жонка Маркевіча Фаня знешне не была падобна на яўрэйку. Падпольшчыкі зрабілі ёй пашпарт, цяпер яна звалася Феня. Але гестапавец прыглядаўся, прынюхваўся, Аднойчы склікаў гасцей, і нехта, забыўшыся, назваў жонку Маркевіча Фаняй. Лёс жанчыны быў вырашаны. Назаўтра гестапавец заявіў: «Каб праз дзве гадзіны яна была ў гета разам з дзяцьмі». Няшчасная жанчына схавала траіх дзяцей разам з мужавай маці ў склепе, а сама выпіла бутэльку воцатнай эсенцыі.

Маркевіч не мог прыйсці на сваю кватэру. А як жа дзеці, старая маці? Ім не далі загінуць. Ганна Аляксееўна дамовілася з Ананьінай, што тая пойдзе працаваць ў нямецкі шпіталь і будзе памагаць сям'і Маркевіча. На кухні Ганна Сцяпанаўна налівала вядро супу і, нібыта памыі, выносіла са шпіталю. Так і карміла асірацелую сям'ю.

Шэсць тыдняў пражыў камуніст Маркевіч на кватэры ў Мохавай. Не раз тут бываў і прафесар Клумаў, у якога былі шырокія сувязі з падпольшчыкамі. Трэ-

# ТРЫБУНА чытачоў

### ШКОЛЬНІКІ АДПАЧЫВАЮЦЬ

Больш 100 дзяцей з Бельшчыны знаходзіцца ў шматлікіх лагерах. 40 дзяцей падарожнічае па берагах Балтыйскага мора (ад Сопату да Калабжэга). У Алецкім павеце аддыхае 37 асоб. У канцы ліпеня 10 дзяцей возьме ўдзел у школьным лагеры ў Супраслі. Апрача таго будзе арганізавана 8 «бівакаў». Падчас трохдзённага адпачынку школьнікаў будуць вучыць плаваць. У Бельску і Орлі арганізуюцца пад вокам старэйшага пакалення маленькія «бівакі».

У інтэрнаце педагагічнага ліцэя ў Бельску аддыхаюць дзеці з адлеглых вёсак Бельшчыны.

Апрача таго ў вёсках існуе 18 дзяцінцаў, у якіх арганізуецца добры адпачынак.

**В. Фалькоўскі**
Бельск

### НЯВЫКАНАНЫЯ АБЯЦАНКІ

Сам выгляд будынка крывяціцкай крамы сведчыць аб тым, што яна павінна даваць добрую паслугу тутэйшым жыхарам. Сяляне сапраўды не наракаюць на брак падставовых прадуктаў ці рэчаў. Але вось прайшоў летні час, а з ім прыйшлі пэўныя клопаты. Прадаўшчыца Оля Мураўка наракае на тое, што некаторыя прадукты псуюцца і не надаюцца да продажу. Аб тым яна ўжо заяўляла ў ГС у Орлі, які дастаўляе тавары. Старшыня ГС у Орлі абяцаў даць халадзільнік. Аднак прайшло ўжо пару месяцаў, а халадзільніка ў крывяціцкай краме няма.

**Ваня Кірызюк**
Крывяцічы

### ЛЯСАВАННЕ МОТАВЕЛАСІПЕДАЎ

15-га ліпеня г.г. у цэнтралі ПКО у Варшаве адбылося чарговае лясаванне мотавеласіпедных ашчадных кніжак. У лясаванні брала ўдзел 20 222 уклады па 500 зл. Вылясавана 15 прэмій.

З Беласточчыны мотавеласіпед — прэмія трапіла на нумар кніжкі 2.140.795-UO.

У Беластоцкім ваяводстве ўжо вылясавана 33 мотавеласіпеды. (мх)




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Жыву на вёсцы. Заўсёды чытаю ўсю «Ніву» дакладна. Яна мне з'яўляецца найлепшым прыяцелем. Найперш пачынаю яе чытаць ад «Сардэчных тайнаў». А таму, што там піша многа дзяўчат і хлопцаў аб сваіх клопатах, а Сэрцайка прыходзіць ім з дапамогай. Я таксама чакаю тваёй дапамогі, парады.

Мне 22 гады, а танцаваць не ўмею. Не маю дзе і навучыцца, бо наша вёска малая, дзяўчат у ёй вельмі мала. А так папрасіў бы, каб яны навучылі. Калі зайдзем на чужое сяло дык яны неяк танцуюць, а я не ўмею і не бяруся. Парай, дзе мне навучыцца танцаваць.

Мо дзе ў якім-небудзь горадзе існуе магчымасць навучыцца танцаваць, мо' які курс? За параду буду вельмі ўдзячны.

**Коля**
з Гайнаўшчыны

**Дарагі Коля!** Аб гэтым ужо я не раз пісала, а калі ты чытаеш кожны нумар «Нівы», дык напэўна і мае парады таксама чытаў. Але цяпер іншая справа. Адкажу табе на тваё шырэйшае пытанне ў справе навукі танцаў. У Беластоку існуе Польскае танцавальнае таварыства, якое навучае прыгожа і правільна танцаваць усіх ахвотных. Тут вучаць танцаваць спецыялісты высокага класа. Яны таксама выязджаюць і ў вёскі і там вучаць ахвотных танцаваць. Але трэба тады выступіць з пісьмом у Ваяводскі дом культуры ў Беластоку, вул. Кілінскага ад імя гуртка, святліцы ці клуба. Калі ў вас такога чагосьці няма дык прылучыся да суседняй вёскі. Калі знойдзецца група ахвотных вучыцца танцаваць, дык напэўна на вашу пісьмовую просьбу ВДК вышле інструктара. Толькі важна, каб былі ахвотныя, каб інструктар не ехаў да двух ці трох чалавек.

**Жадаю поспехаў**
**Сэрцайка**

### ЯШЧЭ РАЗ АБ ЗАБАБОНАХ

Найбольш усялякіх забабонаў ведаюць людзі Гайнаўшчыны, (з-пад лесу) як тут гавораць. Людзі з-пад лесу вераць, што каб выйграць судовую справу, трэба не толькі купіць для адваката чобаты, але апоўначы на могілках з трох магіл набраць пяску і з гэтым пяском непрыкметна абыйсці кругом свайго праціўніка ў судзе тры разы. Або перад ад'ездам у суд замкнуць замок і павесіць яго ў коміне там, дзе ёсць чорная сажа. У такіх выпадках у судзе праціўнік будзе як мёртвы і замкне яму мову.

* * *

Многія людзі баючыся, каб нейкі дрэнны чалавек не сурочыў каня, уплятаюць у грыву чырвоныя латачкі або прычапляюць да ўзды каляровыя кутасікі, якія нават і каня ўпрыгожваюць.

* * *

На Гайнаўшчыне многа шаптух. Некаторыя «цёмныя» людзі яшчэ вераць, што шаптухі памагаюць людзям у розных хваробах і няшчасцях, што шаптухі могуць прынесці людзям няшчасце карыстаючыся «чарнамагіяй». Вось прыклад: зачараваныя яйкі (па адным на кожную асобу) кладзецца каму-небудзь каля хаты і тады жыхароў гэтай хаты спаткае няшчасце. Калі адразу гаспадар знойдзе каля хаты зачараваныя яйкі, і каб не здарылася няшчасце, гаспадыня мусіць занесці іх у дзесятую вёску да шаптухі, каб адагнаць страшэнныя чары і прагнаць няшчасце ад свайго дома. Хітрая шаптуха-чараўніца нагаворыць, што гэтыя чары зрабіла вам нейкая чорнага воласа жанчына, хоцячы, каб вас спаткала вялікае няшчасце. Але яно вас ужо міне, бо я адагнала гэтыя чары. А калі вы зайдзеце дадому, дык памятайце, што прыйдзе да вас тая жанчына, якая падлажыла вам чары і запытаецца, што вы з імі зрабілі.

* * *

Нейкі закон для шаптух і чараўніц наказвае, што перад смерцю трэба абавязкова пераказваць свае чароўныя малітвы для іншай асобы, а таксама расказаць, як рабіць чары і насылаць няшчасце на людзей. У выпадку, калі перад смерцю шаптуха ці чараўніца не перакажа іншай асобе сваёй чарадзейнай моцы, тады прыходзіцца ёй паміраць вельмі цяжка і доўга мучыцца.

* * *

Калі памрэ чалавек, то многія вераць, што яго душа будзе прыходзіць дадому сорак дзён і можа што-небудзь дрэннае зрабіць. Найчасцей памершага душа страшыць улезшы ўначы ў хату, моцна стукае або гаворыць. Многа гаворыцца тут, што некаторыя бачылі, як душа выцягае з калодзежа ваду, поіць жывёліну або плача. А калі маладая жанчына загіне трагічна і асіроціць дзіця, то яе душа праз сорак дзён прыходзіць і корміць дзіця грудзьмі. Некаторыя людзі баяцца, што душа будзе прыходзіць дадому і таму сыплюць у труну свянцоны мак. Тады душа не прыходзіць дадому, бо лічыць мак у труне. Налічыўшы многа тысяч і пачуўшы голас пеўня, памыляецца і пачынае лічыць нанава. І так душа лічыць мак і не мае часу хадзіць.

* * *

Адразу пасля вайны разышлася вестка па ўсім Беластоцкім ваяводстве, а нават яшчэ і далей, што ў Лядах жыве славуты чарадзей, які ўсё можа зрабіць, памагчы ў бядзе, а таксама паслаць няшчасце. Лядаўскі чарадзей умеў таксама варажыць, умеў паказаць з'ўленую кроў на «евангелле» і ўмеў карыстацца пласцінкай са святымі песнямі, якія называў «тайнае ангельскае пеніе». Лядаўскім чарадзеем быў сляпы Тэодар Паўлючук. Ён жыў у старэнькай хатцы з бацькамі і братам. Чарадзей Тэодар займаў сам маленькую каморку і там прымаў сваіх наіўных кліентаў, якія засыпалі яго грашыма. Тэодар даўжэйшы час добра жыў і не знаўся ў грашах, пакуль не ажаніўся яго брат Васіль. А тады і пачалася бяда, бо ў брата было шасцёра дзяцей. Дзеці, вядома як дзеці, шнырали па цэлым Тэодаравым кабінеце, у якім на сценах віселі абразы, жалезныя крыжы і падсвечнік. Дзеці часам сёе-тое падбіралі і неяк выцягнулі з печкі схаваны грамафон і тут выявілася «тайнае ангельскае пеніе». Дзеці дакучалі святому, калі ён маліўся або спяваў святыя песні. І святы Тэодар урэшце не вытрымаў таго і пачаў сварыцца з братам і швагеркай. Часам, абмацаўшы на стале чарапкі, з якіх елі дзеці, кідаў імі ў каго папала, або махаў ключкай кругом сябе, а дзеці тады кідаліся ў дзверы і выбягалі на двор. Часта сварыўся Тэодар з братам і са злосці ішоў тапіцца ў калодзеж, і каб не людзі, то цікава, ці ўтапіўся б. Вось якога сляпы Тэодар рабіў з сябе дзівака. А як назбіраў многа грошыкаў, тады выехаў у Чаромуху, дзе ажаніўся са старой дзеўкай і пабудаваў там сабе хату.

**Мікола Тапалеўскі**
Гайнаўскі павет

### КЛЯШЧЭЛІ



Пункт аховы здароўя.
Фота Янка Цялушэцкі

ба было дамовіцца пра ўсё, абдумаць, абмеркаваць. На адной з такіх сустрэч Клумаў, Уладысік і Маркевіч (ён ужо быў кіраўніком падпольнага партыйнага камітэта Камароўскага раёна) дамовіліся вызваліць Ганну Аляксееўну ад работы ў бальніцы. Доктар Уладысік дабіўся для яе даведкі інваліда 2-ой групы. З даведкай у кішэні Ганна Аляксееўна выконвала даручэнні падпольшчыкаў. Хадзіла з Каменнай у бальніцу да Клумава, на Камароўку і ў іншыя месцы, у няблізкі свет.

У доміку, дзе жыла Мохава, знаходзілі прытулак, параду сардэчнае слова і дапамогу многія падпольшчыкі і партызаны.

З яе доміка нямала людзей пайшлі ў партызанскія атрады, і сувязь з імі не парывалася. У сакавіку 1943 года ад Мохавай пайшоў у партызанскі атрад Аляксандр Андрэевіч Маркевіч: яму ўжо нельга было заставацца ў Мінску. А колькі тут перабывала людзей, прозвішчы якіх не захаваліся! Ганна Аляксееўна кожнаму памагала: каму здабывала вопратку, каму абутак ці што іншае.

Падпольная дзейнасць яе пашыралася. Усё больш людзей звярталася да яе, а разам з гэтым узрастала і небяспека.

Два партызаны атрымалі заданне ўзарваць бензасховішча ля вакзала, якое пільна ахоўвалася немцамі. На выпадак вялікай неабходнасці хлопцам далі адрас Мохавай. Адрасы трэба было запамінаць, але адзін з іх запісаў на шматку паперы. Бензасховішча было ўзарвана, але немцы адкрылі моцны агонь аднаго партызана забілі, а ў Валодзі, цяжкараненага, пры вобыску знайшлі пацёртую паперку, на якой прачыталі: «Каменная, 32. Г. А.».

Ганну Алексееўну Мохаву тут жа арыштавалі і ўчынілі вочную стаўку. Яе прывялі ў нейкае памяшканне, якое нагадвала хірургічны пакой. На стале ляжаў непрытомны партызан, малады, зусім яшчэ хлапчук. Тут жа яму зрабілі нейкі ўкол. Па целе няшчаснага прайшла сутарга, на хвіліну расплюшчыліся вочы. На яго адразу ж як каршуны, наляцелі гестапаўцы: «Скажы, у цябе адрас Мохавай?» Хлопец толькі адмоўна матнуў галавой і зноў страціў прытомнасць.

Гестапаўцы паднялі сваю ахвяру і пасадзілі на нейкае крэсла, прымацаваўшы рамянямі. На шыю надзелі бліскучы абруч і ўключылі электрычны ток.

На вачах у Ганны Аляксееўны партызана катавалі яшчэ некалькі разоў. Ён памёр, не сказаўшы ні слова. Праз тры дні Ганну Аляксееўну выпусцілі, устанавіўшы за ёю пільны нагляд.

Па справе Мохавай арыштоўвалі і Усціння Данілаўну Жогла, але і ад яе нічога не дабіліся.

— Калі б вы бачылі Ганну Аляксееўну, — успамінае Ананьіна, — якая яна ўвайшла ў гестапа і якая выйшла! Яе русыя валасы сталі белыя. Твар пастарэў гадоў на дваццаць!

Выратавалася яна нейкім цудам. У доміку Мохавай жыло некалькі сем'яў, у тым ліку і адзін інжынер, які нідзе не працаваў, усё чакаў прыходу Чырвонай Арміі. Перад самым арыштам Мохавай ён кудысьці выехаў з сям'ёй. Гэта збіла немцаў з панталыку. Яны палічылі, што ўцякаў ён не так сабе, што ён, мусіць, звязаны з партызанамі.

І зноў, яшчэ больш часта Ганну Аляксееўну бачылі з кошыкам кветак на рагу вуліцы...

**Працяг будзе**

**ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ“**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Нарва**

„Wilcze echa" (polski), 6—10.

**Чыжы**

„Dzień w którym wypłynęła ryba" (grecki), 6—10.

**Дубічы Царкоўныя**

„Ostatni po Bogu" (polski), 6—10.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Wieczny kalendarz" (bułg.), 6—10.

**Орля**

„Świat grozy" (polski), 6—10.

**Райск**

„Falstaff" (hiszpański), 6—10.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Paryzanckim szlakiem" (jugosłowiański), „Czworokąt śmierci" (czeski), 5—8.

**Міхалова**

„Kochajmy syrenki" (polski), 5—6. „Tylko jedno życie" radz.), 7—8. „Dzika Elżbieta" (czeski), 9—10.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Aby kwitło życie" (polski), 5—6. „Nauczyciel z przedmieścia" (angl.), 7—8. „Molo" (polski), 9—10.

**Шудзялава**

„Napad stulecia" (angl.), 6—10.

**Янаў**

„Siedem razy kobieta" (włoski), 6—10.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Szukam ojca" (radz.), 5—6. „Grek Zorba" (USA), 7—8. „Rzeczypospolita babska" (polski), 9—10.

**Мельнік**

„Opowieść o Leninie" (radz.), 5—6. „Pierwszy dzień wolności" (polski), 7—8. „Cena strachu" (franc.), 9—10.

**Мілейчыцы**

„Wehikuł czasu" (USA), 5—6. „Walizka z milionami" (franc.), 7—8. „Rzeczypospolita babska" (polski), 9—10.

„Rok Franka W." (polski) 9—10.

### ДУБРОЙСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Rok Franka W." (polski) 9—10.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6892

— **Уладзік, гаспадар хоча табе пару слоў сказаць...**

# ◆ ДАКРУЦІЛАСЯ ◆

Неяк вывалілася Запалка з карабка і трапіла на падаконнік.

— Ага! — узрадавалася Запалка. — Цяпер што захачу, тое і пабачу. А вы што? Сядзіцё ў карабку, як у запечку: ні святла, ні прастору. Шкада мне вас.

Гэта Запалка сваім сяброўкам гаварыла, што ў карабку засталіся. Не сцярпелі запалкі, паспрабавалі суцішыць сяброўку.

— Кінь ты, дурненькая, — сказалі ёй. — Ідзі да нас, тут і ціха, і ўтульна, і патрэбнай людзям будзеш.

— Ф-фі! — раззлавалася Запалка на падаконніку. — Гэта вы нікому не патрэбны, а мяне кожны ўбачыць.

— Не круціся — дакруцішся, — пачула яна ў адказ.

Не паслухалася Запалка, убачыла, што да акна ідзе Чалавек, і яшчэ вышэй галаву задзёрла.

І праўда, прыйшоў Чалавек і адразу схапіўся за яе. У Запалкі аж дух заняло ад гонару. А Чалавек чыркнуў ёю аб карабок і нездаволена прамовіў:

— Адсырэла, нягодніца, — і, зламаўшы, кінуў яе ў попельніцу.

**Я. і Г. Бароўкі**

# ● А С Ц Ю К І ●

Убачыўшы Аўдоццю, якая дажынала пшаніцу, Марфа кінула ў яе бок:

— Добры дзень, кумка! Памагай бог!

— Можа б ты, кумка, мне і сапраўды памагла, — замест таго, каб прывітацца, звярнулася да яе Аўдоцця.

— Што ты, кумачка! Я і рада б, але, як пагляджу, што ў тваёй пшаніцы шмат асцюкоў, дык баюся пакалоць рукі!

Прыйшла зіма. І акурат у Марфы выйшла мука. А без мукі ж кепска: ні блінчыка спячы, ні заціркі згатаваць. Прыкапіла яна мяшэчак і — да Аўдоцці: можа, тая пазычыць?

— Каб табе не зманіць, — яшчэ не пароэе схітравала яна. — Ішла ў краму купіць мукі, ды яе ўсю разабралі. Можа ты пазычыш?

— А ёсць у што?

— Але, кумачка, я і торбачку прыхапіла.

Аўдоцця ўзяла яе торбу і выйшла ў сені. Не мінула і хвіліны, як выбягае яна адтуль спалоханая.

— Каб ты ведала, кумачка! Як толькі я за муку, асцюкі — за руку! Ой, як толькі я за муку, асцюкі — за руку!.. Так і не змагла насыпаць.

Запісаў **А. Раманенка**

# НІЎКА

### ЦІХІ

Раніцай у часе снедання муж быў бледны.

— Я вельмі шумеў учора ноччу, калі вярнуўся са свята? — спытаў ён жонку.

— Не, што ты! Я ніколі не бачыла цябе такім ціхім. Але тыя трое, якія цябе прынеслі, страшна грукалі ботамі!

### ДЗЕДУ, ПАДАЙ!

Дзед, стоячы на драбіне, абрывае яблыкі, а каля яго туляе ўнучка.

— Оля, уцякай, а то я ўпаду і ўдару цябе.

Оля адышла, села на прызбу і кажа:

— Дзеду, падай, я ўжо схавалася!

— **Перачакаем дождж — паплывем далей...**

# ★ Р Ы Б А К ★

Хто куды ў дзень адпачынку?
На вяселле — сваякі,
Хлопцы ўсе — на вечарынку,
А на рэчку — рыбакі.

Любата сядзець у чоўне
Ціхынёй пад вечарок,
І няма найлепшай лоўлі,
Чым на просты на кручок.

Толькі ў гэтым паядынку
Вуда б моцная была,
І ў рашучую часінку
Рыбака не падвяла.

І паміж духмяных кветак
Ты над рэчкай анямеў,
На плывок глядзіш свой гэтак,
Як на жонку не глядзеў.

Ты падсек, — дзяржыць на вудзе
Ён цябе, а ты яго,
І гадаеш — што ж тут будзе,
Хто тут выцягне каго?

Ціха к берагу падводзіш,
І вачэй з яго не зводзіш,
І ўжо браць яго нагнуўся,
А ён, чорт, як страпянуўся, —

І ў руцэ замест вуды
Ты дзяржыш адзін калок,
Вот жа, чортава прыблуда,
Усё з сабою павалок.

**АДАМ РУСАК**

### СУМЛЕННЫ АДКАЗ

— Колькі звяроў вы застрэлілі за сезон?

— Слава богу, ніводнага не бачыў.

### НЕ ВЕДАЎ

— Гэта было каханне з першага погляду?

— Не, з другога. Калі ён упершыню ўбачыў яе, ён не ведаў, што яна багата.

### СУСТРЭЧА

Адзін лодачнік перавозіў праз раку прафесара.

— Вы знаёмы з філасофіяй? — запытаўся прафесар.

— І не чуў ніколі.

— Ну, тады лічыце, што страцілі чвэрць жыцця. А геалогію ведаеце?

— Не.

— Ну, вы страцілі паўжыцця. А астраномію?

— Не.

— Значыць вы страцілі тры чвэрці жыцця...

Тут лодка перавярнулася і прафесар з лодачнікам апынуліся ў вадзе.

— Вы ўмееце плаваць? — запытаўся лодачнік.

— Не.

— Ну, тады вы страцілі ўсё сваё жыццё.

Рацыяналізатар.

### ПАДАРУНАК

У першакласніка Дзімы быў дзень нараджэння. Яго сябры Вова, Коля і Пеця купілі Дзіму ў падарунак прыгожую кніжку казак.

Рыжы Віцька з трынаццатай кватэры сустрэў Вову, калі той нёс падарунак, і спытаў:

— Што нясеш?

— Падарунак Дзімку Цыгалку, народныя казкі.

— Таксама мне падарунак! — круцячы ў руках кніжку, зняважліва кіўнуў Віцька. — Усяго трыццаць капеек? Вунь майму бацьку, калі ў яго быў дзень нараджэння, купілі тэлевізар «Экран».

— А колькі твайму бацьку год?

— Пяцьдзесят.

Вова нічога не адказаў, вырваў кніжку з рук Віцькі і пабег. Аднак гэтая размова не прайшла бясследна.

На вокладцы кнігі, дзе ўжо раней было старанна выведзена: «Дарагому Дзіму ў дзень нараджэння ад яго сяброў Вовы, Колі і Пеці», з'явілася прыпіска: «Калі табе будзе пяцьдзесят, мы падорым табе тэлевізар «Электрон».

Без слоў.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ірэны Т. і сябровак Аліны і Міры з Беластоцкага павета, Раісы Снарскай, Галіны Сэльвонюк, Данусі Камажэўскай, Галіны Петрушук, Крысі Федарук з Даратынкі, Веры Карпюк з Бялявіч (пав. Беласток), Галіны Карповіч з Дзерняхова (Беластоцкі павет), І. Пучко і У. Харкевіч з Янова, Надзі Асіпчук, Галіны Мікалаюк, Олі Шатылові і Яўгіні Маркевіч з Дашоў, Ніны Маркевіч з Дубіч Царкоўных, Ніны Карпюк і Янкі Грыгарук з Дубіч Асочных, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню п. з.

## TYCH LAT NIE ODDA NIKT

Słowa — KAZIMIERZ WINKLER

**1.**

**Tych lat nie odda nikt,**
**tych lat nie odda nikt,**
**gdy swoją drogą ja chodziłem,**
**swoją drogą ty,**
**gdy słowa tłumił żal,**
**gdy oczy ściemniał gniew,**
**gdy drażnił muzyki dźwięk**
**i nocnych ptaków śpiew.**
**Tych lat, straconych lat**
**już nam nie odda nikt,**
**nikt nam nie odda pięknych nocy**
**ani dni,**
**tych zmierzchów pełnych barw**
**i tych wiosennych burz,**
**gdy wiatr zgina drzewa,**
**gdy wiruje złoty kurz,**
**najcichszych kilku chwil,**
**nim ptaki zbudzi świt,**
**i gwiazd, które spadły w dół,**
**nie odda nam już nikt.**

**2.**

**Tych lat nie odda nikt,**
**tych lat nie oda nikt.**
**Nie powracajmy już do tamtych**
**nocy ani dni,**
**uciszmy w sercu żal,**
**wyrzućmy nagły gniew,**
**witajmy muzyki dźwięk**
**i nocnych ptaków śpiew.**
**Tych lat idących lat**
**już nam nie weźmie nikt,**
**nikt nie zabierze pięknych nocy**
**ani dni,**
**tych zmierzchów pełnych barw**
**i tych wiosennych burz,**
**gdy wiatr zgina drzewa,**
**gdy wiruje złotych kurz,**
**najcichszych kilku chwil,**
**nim ptaki zbudzi świt,**
**i gwiazd, które lecą w dół,**
**nie weźmie nam już nikt.**

### РЭНТГЕН

Адзін студэнт, гультай і прагульшчык, не ведаючы прадмета, здаваў у другі раз экзамен Рэнтгену.

— Хто вам чытаў лекцыі? — спытаў вучоны.

Студэнт пералічыў шэраг прозвішчаў.

— Ну, бачыце, сёння справы ў вас ідуць лепей, чым у мінулы раз. Вы ўжо ведаеце прозвішчы прафесараў, лекцыі якіх павінны былі слухаць.

# Курёзы

**Кур'ёзы**

Бармен з Нью-Йорка Джэк Льюіс здолеў сумясціць сваё хобі — будаўніцтва цацачных чыгунак — з асноўнай работай. Мініяцюрны поезд цягне за сабой цэлы састаў вагонаў, гружаных закускамі, заказанымі наведвальнікамі бара.

Менш удалы быў іспанец Хасінта Альварэс. Хобі настолькі завалодала ім, што стала адзіным яго заняткам; ні на што іншае часу ўжо не заставалася. Хасінта Альварэса нездарма называлі самым сумным чалавекам на свеце: за сваё жыццё ён прыняў удзел у васемнаццаці тысячах пахавальных працэсій. Лёс пайшоў насустрач хабісту: дзевяноставасьмігадовы аматар пахавальных шэсцяў сустрэў сваю ўласную смерць у той самы час, калі ішоў за чаргавым жалобным картэжам.

### ПЕРАКАНАЎЧЫ ДОКАЗ

Да некаторых пальчатак, што прадаюцца ў Нью-Йорку, дадаюцца спецыяльныя этыкеткі, у якіх кампанія паведамляе: «Гэтыя пальчаткі зроблены са скуры паўднёваамерыканскага дзіка — лютай, задзірыстай жывёлы. Таму любыя шрамы і драпіны на купленых вамі пальчатках служаць надзейнай гарантыяй таго, што яны сапраўды зроблены са скуры дзіка».

*

Дзіцяці далі пустушку. Так адбылася першая сустрэча з няпраўдай.

**В. Галабародзька**

Свінні і на памінках будзе рохкаць.